


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

3 ЖНІЎНЯ 2001г. № 31-32/4115-4116 КОШТ 130 РУБ.


## НА АДНАГО ЎПРАЎЛЕНЦА— ВОСЕМ ПРАЦУЮЧЫХ

***Яўген ЛУГІН: "Без прыватнай уласнасці на зямлю пачаць сур'ёзнае рэфармаванне немагчыма. Толькі залог прыватнай зямлі дае магчымасць атрымаць крэдыты. Дзяржаўную зямлю банкі ў залог не прымаюць. А іншай маёмасці ў нас няма".***

**5**

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

***Алеся БАДАКА***

**8**

## ПАСЛЯ ПАЖАРУ

***Апавяданне Міхася ЗАРЭМБЫ***

**9**

## ТРАДЫЦЫЙНАЯ НАРОДНАЯ КУЛЬТУРА

***Таццяна КОМАНАВА: "Дзякуючы чаму рудабельская "Берагіня" ўсур'ёз цікавіць практыкаў і тэарэтыкаў фальклорнага мастацтва і дазваляе весці размовы без "скідак" на правінцыйнасць і мястэчковасць? Магчыма таму, што на гэтую мястэчковасць найперш не пакутуюць самі арганізатары фестывалю".***

**11**

## ТАЎРЫ ВЯРТАЮЦЦА ЗАЎСЁДЫ

***Вандроўныя нататкі Людмілы РУБЛЕЎСКАЙ***

**14—15**




Фота В. КАРОЛІКА

*У цэнтры Сусвету,*
*на родным улонні,*
*далёка ад тлуму*
*З ім вольнае лета*
*і вольныя коні,*
*і вольныя думы*

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

Шаноўныя чытачы! На "ЛіМ" на другое паўгоддзе 2001 года падпісацца ніколі не позна! Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 690 рублёў, на тры — 2070 рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 1800 рублёў, на тры — 5400 рублёў.

**Індывідуальны індэкс — 63856.**
**Ведамасны індэкс — 63857.**

МЕРКАВАННЕ

**У апошнія гады сельская гаспадарка Беларусі па сваёй значнасці для грамадства выходзіць на першы план. Гэта тлумачыцца наступнымі прычынамі.**

Па-першае, прамысловая Беларусь выконвала ролю зборачнага цэха ў інтарэсах былога Саюза. Высокая металаёмістасць, вялікі расход энергіі на адзінку прадукцыі і непад'ёмныя падаткі зрабілі яе прадукцыю неканкурэнтнай на сусветным рынку. Яна спажываецца на ўнутраным і значная частка па бартэру адпраўляецца ў Расію. Трэба адзначыць, што 60 працэнтаў прадпрыемстваў цалкам ці часткова працавалі на войска. Цяпер такія заказы зменшыліся ці адсутнічаюць зусім. Відавочна, што на прамысловасць спадзявацца не прыходзіцца. Ёй патрэбна структурная перабудова з вялікімі затратамі капітала. Такіх грошай у дзяржавы няма. Тупіковая сітуацыя для прамысловасці ўскладняецца адсутнасцю прыватнай уласнасці на зямлю. Менавіта тут адна з галоўных перашкод для замежных і айчынных інвестараў.

# На аднаго ўпраўленца — восем працуючых

## АБ РЭФОРМАХ У АГРАПРАМЫСЛОВЫМ КОМПЛЕКСЕ

Па-другое, без прамысловых тавараў хоць і часова, але можна абысціся. А прадукцыю сельскай гаспадаркі спажываюць усе і кожны дзень.

Па-трэцяе, зямля — асноўнае наша багацце. У сярэднім на аднаго чалавека прыпадае два гектары тэрыторыі, амаль гектар сельгасугоддзяў і шэсцьдзесят дзве соткі ворнай зямлі. Па гэтых паказчыках мы займаем першае месца ў Еўропе. Зямля дае не толькі харчаванне, але сыравіну для прамысловасці. Бульба, ячмень, лён, цукровыя буракі даўно з'яўляюцца тэхнічнымі культурамі. Ужо распрацавана тэхналогія вытворчасці дызельнага паліва з рапсу. Яна дае магчымасць зменшыць закупкі нафты і выкарыстоўваць землі, забруджаныя радыенуклідамі.

Трэба дабавіць, што сельгасугоддзі Беларусі размешчаны ў вельмі спрыяльных кліматычных умовах. Засухі, паводкі і замаразкі бываюць, але яны маюць лакальны характар. Адным словам, наша зямля дае нам усё. Яна забяспечвае нацыянальную бяспеку дзяржавы. Але зямлі патрэбен гаспадар.

Стан сельскай гаспадаркі выклікае глыбокую трывогу. Пра гэта гавораць усе: палітыкі, навукоўцы, практыкі. Усе згодны, што патрэбна адзіная канцэпцыя выхаду з крызісу. У нас адзін народ, адна зямля і адна бяда. Адолець яе можна толькі разам.

Аднак трэба разабрацца, што нас раз'ядноўвае. Супярэчнасці ўзніклі невыпадкова. Яшчэ з часоў калектывізацыі ў нас на зямлі дзейнічаюць два сектары: калгасна-дзяржаўны і прыватна-сямейны. Натуральна, размежаванне ў грамадстве адбылося па адносінах да гэтых форм гаспадарання.

Доўгі час панаваў калгасна-дзяржаўны сектар. Яго падтрымлівалі спецыялісты — арганізатары вытворчасці, чыноўніцкі апарат, навукоўцы. Але ўсе агульныя спадзяванні не апраўдаліся. Сістэма не спрацавала. Нечага не хапала.

У 1964 годзе краіна, у якой мы жылі, упершыню закупіла збожжа за мяжой. Лічылі, што гэта з'ява часовая. Аднак механізм закупак стаў дзейнічаць пастаянна. Нават ва ўраджайныя гады. Больш за тое, да збожжа дабавіліся закупкі мяса, масла і іншых прадуктаў харчавання.

У наш час, калі статыстыка стала больш адкрытай, мы даведаліся, што страты сельгаспрадукцыі на шляху ад поля да магазіна складалі трыццаць працэнтаў. Дзіўнае супадзенне. Аказваецца, можна было абысціся без імпарту. Трэба было толькі захаваць вырашчаную прадукцыю. Не здолелі. Гэты факт з'яўляецца важкім аргументам на карысць рэформы калгасаў.

Але ёсць і другія. Сістэма не змагла перамагчы ў канкурэнтнай барацьбе такога, здавалася, слабага апанента — прысядзібную гаспадарку. Хоць такая задача і ставілася. Рабіліся сур'ёзныя крокі, каб адміністратыўнымі мерамі абмежаваць прысядзібную гаспадарку, забараніць утрыманне жывёлы ў рабочых пасёлках і малых гарадах. У выніку ў большшасці раёнаў Саюза прадукты харчавання сталі дэфіцытам.

Ёсць нагода ўспомніць добрымі словамі Кірыла Мазурава. Менавіта ён у свой час адбіўся ад Хрушчова, і Беларусь апынулася ў баку ад гэтых бязглуздых навацый. У нас захаваўся прыватна-сямейны сектар, і Беларусь па дабрабыце людзей займала адносна высокі ўзровень.

Адна з трагічных старонак сялянства — апошняе ўзбуйненне калгасаў. У выніку толькі цэнтральныя сядзібы раслі і развіваліся. Усе навакольныя вёскі запісалі ў бесперспектыўныя, яны сталі чэзнуць і выміраць. Там няма бальніц і медпунктаў, ліквідавалі школы, адмянілі рэйсы аўтобусаў, бытавыя ўмовы засталіся на ўзроўні трыццатых гадоў. Спецыялісты падлічылі, што дробныя калгасныя гаспадаркі (да дзвюх тысяч гектараў сельгасугоддзяў) мелі ад зямлі аддачу ў пяць разоў большую, чым буйныя. Каму было выгадна гэтае ўзбуйненне? Відавочна, што чыноўнікі думалі не пра эфектыўнасць, а пра зручную работу для сябе.

Што ж перашкаджае рэформам? Ёсць слой людзей, якія на розных узроўнях кіруюць сельскай гаспадаркай. Яны кормяцца ад гэтай сістэмы. Слова "рэформа" іх палохае. Яны ўспрымаюць любую рэформу, як магчымую страту кармушкі. Яны лямантуюць: "Гвалт! Разганяюць калгасы". Чыноўнікі свой шанц не ўпусцілі. Ім удалося ўсе дыскусіі па тэму рэформы калгасаў перавесці ў іншую плоскасць — разганяць — не разганяць. У выніку такой тактыкі калгасная сістэма засталася нязменнай і паступова дрэйфуе да поўнага развалу.

Апалагеты калгаснага ладу нічога новага прапанаваць не могуць. Застаецца адно: умела пускаць у ход розныя міфы. Адзін з іх, створаны па заказе чыноўнікаў паслухмянымі навукоўцамі, моцна засеў у галовы многіх аграрнікаў. Сутнасць яго ў тым, што сельская гаспадарка Беларусі ў лепшыя часы дасягала ўзроўню перадавых краін свету.

Ніколі сельская гаспадарка Беларусі па сваёй эфектыўнасці не набліжалася да ўзроўню цывілізаваных краін!

У нас усё дасягалася валам і навалам. Толькі цяпер стала вядома, што працуючых у аграрным сектары Беларусі ў 5-10 разоў больш, чым у багатых краінах.

Безумоўна, што галоўная слабасць сістэмы — адсутнасць матывацыі працы. Чалавек не з'яўляецца гаспадаром зямлі, ён не распараджаецца плёнам сваёй працы. У выніку зніжаецца яе прадукцыйнасць, расце безгаспадарчасць, парушаецца працоўная і тэхналагічная дысцыпліна, крадзяжы калгаснага дабра становяцца нормай жыцця. П'янства, у тым ліку і сярод жанчын, стала эпідэміяй.

У барацьбе з гэтымі недахопамі ёсць адзін шлях — жорсткае заканадаўства, павелічэнне кіруючага апарату, пашырэнне яго кантрольных і прымусовых функцый. Але кіруючы апарат у нас і так перавышае ўсе разумныя нормы. Напрыклад, у ЗША на аднаго чыноўніка прыходзіцца 47 працуючых. У Беларусі шэсць год таму назад гэтыя суадносіны былі адзін да пятнаццаці. Цяпер жа, па звестках БелНІІ аграрнай эканомікі, на аднаго ўпраўленца прыходзіцца восем працуючых. Тут да месца будуць словы паэта Пімена Панчанкі:

***"Мой родны край, як мы жывём пагана***
***Што не пасеем мы, усё сажруць***
***Чыноўніцкія орды Чынгіс-хана***
***З мільёнаў кабінетаў пруць і пруць".***

Калгасна-дзяржаўная сістэма можа існаваць пры камандных метадах кіравання, планавай эканоміцы і агульнадзяржаўнай уласнасці. Рынкавая эканоміка выносіць гэтай сістэме смяротны прысуд. Бо сабекошт яе прадукцыі значна вышэй сусветных цэн і яна не знойдзе пакупніка. З-за гэтага мы ўжо страцілі многія рынкі збыту ў суседніх краінах. Але ўсё горшае яшчэ наперадзе. З'явіліся першыя прыкметы таго, што мы губляем свой унутраны рынак. Цяпер ужо многія харчовыя тавары з Расіі пачынаюць выцясняць беларускую прадукцыю. Менавіта ў гэтым закладзены незваротны крызіс калгаснага ладу.

А цяпер паглядзім на прыватна-сямейны сектар сельскай гаспадаркі. Магчыма, там наша ўратаванне? Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба разабрацца, што ён сабой уяўляе. Сёння, па звестках статыстыкі, у нашай краіне маецца 1900000 прысядзібных гаспадарак, 680000 дачных участкаў, 315000 участкаў для агароднікаў і 2600 фермераў. У валоданні гэтага сектара знаходзіцца паўтара мільёна гектараў зямлі, што складае 16 працэнтаў зямельнага фонду Беларусі. Нягледзячы на тое, што дзяржава прыватна-сямейнаму сектару ніякай дапамогі не аказвае, тут апошнія тры гады збіраюць палову сельгаспрадукцыі. Лозунг сельгасчыноўнікаў, што калгасы кормяць краіну, страціў свой сэнс. Відавочна, што ў гэтым сектары львіную долю займаюць прысядзібныя гаспадаркі жыхароў сельскай мясцовасці. Фермеры, дачнікі і агароднікі апрацоўваюць менш аднаго працэнта зямлі і доля выробленай імі прадукцыі мізэрная.

Трэба прызнаць, што апошнім часам многія вяскоўцы павялічылі памеры прысядзібных участкаў. На першы погляд, гэта адзін з накірункаў зямельнай рэформы. На самай справе, выдзяляючы зямлю вяскоўцам, улада ажыццявіла канкрэтныя мэты:

—па-першае, прымусіла калгаснікаў, як і пры Сталіне, жыць за кошт прысядзібнай гаспадаркі, а ў калгасе працаваць амаль бясплатна, адрабляць паншчыну;

—па-другое, моцна прывязала вяскоўцаў да калектыўнай гаспадаркі. Атрымаўшы гектар зямлі, селянін трапляе ў кабалу: апрацаваць яе без калгаснай тэхнікі немагчыма;

—па-трэцяе, вырашыла праблему харчавання не толькі для вяскоўцаў, але і для многіх гараджан. Ужо стала традыцыяй, што гараджане едуць да сваіх бацькоў і сваякоў вясной — на пасяўную, летам — на нарыхтоўку сена, а восенню — капаць бульбу і буракі. А дамоў заўсёды вяртаюцца з торбай сала.

Ёсць сэнс уважліва прыглядзецца, як жывуць і працуюць уладальнікі прысядзібных гаспадарак. Калі сказаць коратка — то гэта катарга. Пастаянная, кожнадзённая праца без святаў і водпускаў. Амаль усё робіцца ўручную. Тут сіл і часу на адзінку прадукцыі траціцца больш, чым у адсталым калгасе. Нізкая эканамічная эфектыўнасць гэтай гаспадаркі абцяжарваецца крыўдамі і знявагамі. На прысядзібным участку ўсё робіцца ў апошнюю чаргу. Але людзі прыстасоўваюцца да новых умоў жыцця. Неспадзеючыся на калгасную тэхніку, некаторыя майструюць самаробныя трактары, другія купляюць тэхніку ў складчыну, а большасць стараецца прыдбаць коніка. У 1980 годзе ў прыватным сектары было ўсяго 800 коней. Далей пайшоў рост: 1991 год — 20 тысяч, 1995 — 55 тысяч, 1999 год — каля 80 тысяч.

Безумоўна, людзі ў сельскай мясцовасці з голаду не памруць. Але і гэта не жыццё. Дзеля чаго ўсе гэтыя пакуты? Адказ адзін — трэба выжыць. Рэжым выжывання расцягнуўся на чатыры пакаленні. Людзі ўжо так прыцярпеліся і звыкліся з гэтай катаргай, што лічаць яе нармальным жыццём.

Прысядзібная гаспадарка — анахранізм у сучасным свеце. Тут праяўляюцца элементы натуральнай гаспадаркі, якая дзейнічала ў сярэднія вякі. Бесперспектыўнасць яе доказвае і той факт, што практычна нідзе ў цывілізаваным свеце такой формы гаспадарання няма. Яна ўзнікла разам з калгасамі і спыніць сваё існаванне разам з імі.

З усяго сказанага трэба зрабіць дзве высновы.

**Па-першае, трэба спыніць спрэчкі аб перавагах дзеючых форм гаспадарання. Па сутнасці, спрэчкі на гэтую тэму — пустая, непатрэбная і шкодная справа. Відавочна, што дзве разгледжаныя формы гаспадарання ва ўмовах рынкавай сістэмы нежыццяздольныя.**

**Па-другое, канцэпцыя рэформы павінна ахапіць увесь аграпрамысловы комплекс: калгасы, дзяржгасы, фермераў, прысядзібныя гаспадаркі, перапрацоўчыя прадпрыемствы і ўсю сферу абслугоўвання.**

Рэформы не могуць пачацца знянацку. Патрэбен нейкі пераходны перыяд. У гэты перыяд павінны дзейнічаць наступныя прынцыпы:

1. Усе суб'екты многаўкладнай эканомікі знаходзяцца ў роўных умовах і сваёй дзейнасцю даказваюць права на жыццё. Абавязкова дзейнічае механізм банкруцтва.
2. Усім суб'ектам АПК прадстаўлена поўная эканамічная свабода. Сваю прадукцыю яны рэалізуюць па законах рынку як унутры краіны так і за мяжой.
3. Функцыі кіруючага апарату носяць кансультатыўны характар. Камандна-адміністрацыйная сістэма кіравання адмяняецца.
4. Кожны работнік калектыўнай гаспадаркі атрымлівае акцыю на долю маёмасці і акт на пай зямлі ў прыватную ўласнасць. У далейшым ён сам зробіць выбар: ці стаць фермерам, ці арганізаваць з раднёй і сябрамі кааператыў, ці застацца ў акцыянерным таварыстве, якое будзе ўтворана на базе былога калгаса, ці наогул усё прадаць і заняцца другой справай.
5. Ствараецца сетка зямельных (іпатэчных) банкаў. Гэтыя банкі прымаюць у залог зямлю і другую маёмасць і выдаюць крэдыты для закупкі неабходнай тэхнікі, насення, угнаення.

Тут трэба падкрэсліць, што без прыватнай уласнасці на зямлю пачаць сур'ёзнае рэфармаванне немагчыма. Толькі залог прыватнай зямлі дае магчымасць атрымаць крэдыты. Дзяржаўную зямлю банкі ў залог не прымаюць. А іншай маёмасці ў нас няма.

Калі будуць дзейнічаць гэтыя прынцыпы, то яны створаць добрыя ўмовы для комплекснай рэформы. Калі ж яны не будуць дзейнічаць, то любая рэформа будзе нагадваць касметычны рамонт старой сістэмы.

**Яўген ЛУГІН,**
**палітолаг**



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

хаваюцца забойцы і толькі ловяць тое імгненне, калі рукі мае і галава занытыя парусам, што вырывае з рук вецер".

Маральны і духоўны паратунак Ляздзейка знаходзіць у стасунках з дачкой адважнага воя Давыда Гарадзенскага Рацібора Гайнай. Спачатку ён не разумее, чаму так сталася, што сярод іншых вылучыў якраз яе. Аднак паступова прыходзіць да ўсведамлення, што на тое свая прычына: "Гэта быў, несумненна, знак. Знак таго, што не проста ўвайшло гэтае дзеўчанё ў маё жыццё. Яму патрэбна мая абарона, мая дапамога". І Ляздзейка абараняе Гайну, як можа. І нават робіць немагчымае, калі над ёй вяршаць адно з самых страшных на той час судзілішчаў: "Вогненны суд звычайна ладкавалі так — санкі (а ўлетку калёсы), дзе сядзеў асуджаны, разгойдвалі так, што яны, праляцеўшы па схіле колькі метраў, траплялі ў вогненны калідор. Высахлыя і з лета сагнутыя асаблівым чынам асіны ўспыхвалі імгненна. Бывала, што разгайданыя санкі спыняліся ў агні, і тады ад асуджанага заставаліся толькі абгарэлая скура ды страшныя малякі костак..."

Канечне, у тым, што Гайна ўратавалася, прамой заслугі Ляздзейкі няма. Аднак таму яна і ўратавалася, што знайшліся добрыя людзі, якія аблілі асіны вадой. Але ж дабро было зроблена невыпадкова. Дзякуючы таму, што Ляздзейка пасяліў у душы Гердзеня, якога прыблізіў да сябе, парасткі гэтага. І ўжо Гердзень не мог спакойна ўспрымаць несправядлівасці ў дачыненні да Гайны. Гердзень разумеў: перашкаджаючы Вогненнаму суду, ён ашуквае багоў. Толькі разумеў і іншае, што прагучала з яго вуснаў, калі Ляздзейка папракнуў яго за самавольства. Не мог не зрабіць гэтага, хоць у душы і радаваўся, што Гайна засталася жывой. А на папрок Гердзень годна адказаў: "Я ж толькі дапамог ім (багам. — **А. М.**), гаспадзін. Бо калі б яны супраць тваёй жрыцы былі, то, значыць, няўдзячныя яны надта. І табе дапамог — зусім трошкі... Ці не так? Калі гневаешся — загадай забіць твайго вернага слугу!"

Складанасць становішча Ляздзейкі і ў тым, што ён знаходзіцца як бы на сумежжы двух вераванняў. Язычніцкай веры, да якой бліжэй ляжыць яго душа і той, што прыходзіць на змену ёй. Ды Ляздзейка з людзей, для якіх важна, каб людзі жылі ў спакоі і згодзе. Таму, падтрымліваючы старых багоў, не адпрэчвае і новых. І ў падобным кампрамісе — яго мудрасць. Аднаго кампрамісу не прымае Ляздзейка — ніколі не ідзе на здзелкі з сумленнем. А ў выніку гэта і прыводзіць да таго, што шляхі Гедзіміна і Ляздзейкі, які стаў Вярхоўным жрацом Вялікага Княства Літоўскага, разыходзяцца.

У аповесці, пры ўсёй яе кампазіцыйнай зладжанасці, сваім глыбокім псіхалагізмам, асабліва вылучаюцца два моманты. Першы, калі вяршыўся Вогненны суд. Другі — на завяршэнні твора. Гедзімін перад тым, як выступіць чарговы раз супраць прусаў, просіць Ляздзейку: "Мне трэба добрае прароцтва..." Ляздзейка і сам хацеў бы гэтага, ды... Ён гаворыць прама: "Але ж я адказаў табе дзве седміцы назад, вялікі князь, што гаданне па змеях не ўдалося, а печань ахвярнай авечкі была ў злавесных пражылках". Гедзімін усё ж настойвае на сваім: "Што ж будзе з таго, калі ты адзін раз схлусіш? Багі даруюць табе, таму што я... чуеш? Я вазьму на сябе гэты грэх! А мне яны даруюць! Бо яны выбралі мяне, яны ўзнеслі на трон не цябе, а мяне!" Ды не збіраецца Ляздзейка хлусіць: "Не. Я не скажу няпраўды".

З гэтага моманту шляхі Гедзіміна і Ляздзейкі разыходзяцца назаўсёды. Вялікі князь праганяе свайго жраца... Ляздзейка крочыць у невядомасць, не ведаючы, як будзе далей жыць. Але ён, нягледзячы ні на што, нязломлены, бо маральная праўда на яго баку. І ў гэты момант, калі мы развітваемся з ім на старонках аповесці, ён асабліва прываблівае да сябе. А гэта таксама сведчанне на карысць таго, што аповесць "Вяшчун Гедзіміна" прагучала, стала важкім папаўненнем у той, на жаль, пакуль не такі і вялікі спіс мастацкіх твораў, якія асэнсоўваюць нацыянальную даўніну.

Паколькі гаворка ў творы вядзецца ад імя самога Ляздзейкі, аўтарцы было нялёгка дасягнуць той праўдзівасці, дзякуючы якой дакладна ўзнаўляюцца падзеі, і разам з тым размова вядзецца шчыра і непасрэдна. У цэлым з гэтай няпростай задачай В. Іпатава справілася паспяхова, хоць не абышлося і без некаторых пагрэшнасцяў. Не стаўлю сабе мэтай згадваць іх, таму спашлюся толькі на адну, па-свойму тыповую. Ляздзейка так гаворыць пра жаніха адной з дачок Гедзіміна: "Зразумела, княжыч не мог перамяніцца, і Марыя для яго толькі сродак для палітычных мэт".

Ды гэта — прыватнасці.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

***мой сон завецца мукаю...***
***Не проста адчыняецца***
***мой сон —***
***замок з сакрэтамі.***

Што да *жытняй Айчыны*, то ў Ігнацюк знарочыстыя прызнанні ў любові, можна сказаць, адсутнічаюць увогуле. Ці то ў процівагу іншым нашым шчодралюбным паэтам ці то зважаючы на адзін з Божых запаветаў: *не упоминать всуе*... І сапраўды, хіба гэтыя, да прыкладу, радкі не ёсць прызнаннем у любові.

***А валошкі высокія з жыта***
***паглядалі на наша спатканне.***
***Я была сінім сном апавіта.***
***Эратычна ўсміхалася ранне.***

Альбо наступныя, як на мой погляд, вартыя хрэстаматыйнага занатавання і завучвання.

***Пеўнік мой залаты,***
***бы з расы,***
***бы з вады...***
***Праспявай на ўсю вёску***
***мой голас,***
***каб пачулі двары,***
***каб пачулі сады.***
***Каб узняў галаву***
***жытні колас.***

Ну, і вецер, які, хоць і няўвідна, але дастаткова прысутны ў прыведзеных цытатах. Зрэшты, можна й асобна, больш выпукла.

***Я думаю,***
***а думка мая спіць.***
***Навошта спіць,***
***калі прачнуўся вецер?***
***Навошта прачнуўся Вецер?***
***Мой Вецер хоча думку паўтарыць,***
***як бачыць мяне***
***ў новым крэп-жаржэце.***

*Айчына, Творчасць* і *Любоў* — вось тыя "тры кіты", на якіх трымаецца гэты *свет паэткі*, а пэўна, ён ёсць і тым "*трохкутнікам*", з якога пачынаецца чалавечы свет увогуле...

Пра гэта, дарэчы, вельмі добра напісала Святлана Каробкіна.

***Перакрэслена, забыта —***
***Дзе ж паставіць крыж?***
***Нешта з памяці здабыта***
***І лістком паміж***
***Тым, былым,***
***І часам гэтым***
***Сонечна блішчыць...***
***Заставайцеся паэтам,***
***Мне — жанчынай быць.***

Аднак узнёслая вясёлкавая метафорыка паэтычнага свету Алены Ігнацюк занавешваецца ад надзённага, застываючы "ля віртуальнага трумо", "як паненка з сяла, з матылькамі на сэрцы", "бо сон у лесе" жывучы... Застаючыся *там* — дзе прыгожа, вабна й бліскуча. Прычым бліскуча наўкруж і настолькі ярка, што слепіць вочы не толькі героям яе кніжкі, але і пяцістам яе патэнцыянальным чытачам. Бо: "з бліскучага пяску", "ў бліскучым сне", з "бліскучай музай", "бліскучым летам", з "бліскучымі стракозамі", "бліскучых надзей", у "бліскучай расе", "пад небам я бліскучабелая", бы "бліскучы Сатурн", "на бліскучых губах"...

Там, дзе шмат бляску — мала натуральнасці, а значыць, празмерна штучнага. Не, не, нішто там не мёртвае, але — *снёнае*... Ды з іншага боку, хіба сны, мроі і летуценні з'яўляюцца штучнымі спараджэннямі? Але *прыдумкаю*, мабыць, з'яўляюцца. Напэўна, бо гэта ж аднарадныя і аднародныя паняцці, што намі здумваюцца, надумваюцца і прыдумваюцца... Безумоўна, у імя прыгожага... Таму вось і гэты помны эпіграф з Джавані, узяты Максімам Багдановічам да "Веранікі", — *"Яна — выдумка маёй галавы"* — тут як тут, выпырхвае птушкай з падсвядомасці...

І ўсё ж я не схільны сцвярджаць, што ўвесь *паэтычны свет* Алены Ігнацюк *надуманы штучна*. Не, ён таксама, як і наш рэальны зямны свет, *нажыты*. Нажыты духоўнымі намаганнямі аўтара. Бо мазалі на нашых руках — гэта не адзіная праўда пражытага жыцця. Працоўныя мазалі не могуць служыць чалавеку індульгенцыяй за яго зямныя грахі. Яны нават не з'яўляюцца асновай для пропуску ў рай, хоць, вядома, што і ад пекла імі не адробішся...

"Я там, дзе больш мяне няма", — кажа паэтка, не абышоўшы ўвагай вядомай цяпер усім філасофскай тэзы Валянціна Акудавіча, і зусім нечакана дадае ўслед: "прыгожы век, не сні мяне, не выдумляй", тым самым перакульваючы ўсё з ног на галаву. Але як толькі чалавек апынаецца ў падобным экстравагантным становішчы, то адразу ўвесь робіцца *відзён*, асабліва — жанчыны. І тут нічога ўжо не зробіш...

***Не плач, мая паэзія.***
***Твой гаспадар упэўнены,***
***што ты яшчэ дзіця:***
***так мала ў табе грацыі,***
***і класікі.***
***і таленту,***
***і свецкага быцця.***

Успамінаецца, што выдатны рускі паэт Уладзімір Сакалоў пісаў калісьці, што "можно жить и в придуманном мире", напрыканцы, праўда, схамянуўшыся...

***Но заметил я, душу очистив,***
***От земного приняв неземное,***
***Тень летит от придуманных листьев***
***На мое безысходство земное...***

Нешта падобнае адбылося па часе і з паэткай Святланай Каробкінай: "пахукаю, і на акне // З'яўляюцца мае бярозы"... Але ў *прыдуманым свеце* чалавек можа жыць толькі да сваёй натуральнай фізіялагічнай смерці — не даўжэй, пакуль рэальны жывы свет не пахавае яго на сваім звыклым панылым пагосце... Ці не таму аднойчы ў Каробкінай вырваліся з душы і такія рэдкія для жаночай паэзіі радкі апошняга чалавечага адчаю?!

***Дыхні — адчуй бязмоўя моц,***
***Крані яшчэ жывую плоць,***
***Не спі, калі між горкіх траў***
***Да ног маіх паўзе удаў!***

Ды і Ксенія Някрасава, якая на першапачатку даверліва прызнавалася, што робіцца "как воздух, светлее и наряднее" і **жыве, як птушка ў пакоі, пакуль за акном ідзе снег**, — раптам! — бянтэжыцца, нібы ўколваецца адной з *дзесяці*, **кінутых Блокам**, жаночых *шпілек*: "Как мне писать мои стихи?// Бумаги лист так мал. // А судьбы разрослись"...

Зрэшты, і сама Алена Ігнацюк, мабыць, прадчуваючы падобнага да мяне чытача ці рэцэнзента, час ад часу пачынае прагаворвацца, як бы даючы знак — *ды ведаю я, ведаю*, што "нехта скажа мне: "Пара, пара ідылію спыніць"...

А — *навошта*?! — цяпер ужо я задам сустрэчнае пытанне. Навошта яшчэ і ёй гэты наш *шэры, прадажны, схлушаны, бяспраўны і беспрасветны* Свет?! Няхай хоць *там* ёй будзе *цёпла* і *ўтульна*. Ды і мы, перабываючы ў сваёй вечаровай натомленай скрусе, аднойчы можам падысці да кніжнай паліцы і адгарнуць першую старонку гэтай кніжкі, як першую прыступку ў *яе свет* і **нечакана натрапіць на гасцінны кубачак кавы ад паэткі**, каб, пасля ўжо, развітваючыся, удзячна сказаць ёй жа яе словамі:

***Памінаю Вас***
***Вашым жыццём асаблівым.***
***Вы былі і Вы ёсць!***
***У дажджы мітуслівым***
***белы голуб да Вас завітаў,***
***у акенца пастукаў,***
***у вадзе танцаваў, —***
***так прасіўся да Вас ён у рукі.***

Не зблытаю цяпер яе голас з іншымі. Гэта ўжо немагчыма. І — твар яе, і воблік, і своеасаблівую паэтычную асобу...

І давайце не будзем дарэшты верыць у гэтыя казкі пра *Залюстэркавы Свет*. Пакінем іх нашым дзецям. Бо ў нас, дарослых, усё зусім інакш. Асабліва ў паэтаў. Як, да прыкладу, у любімай мною Ксеніі Някрасавай.

***Нет! Зеркало не льстец,***
***правдивее поклонников оно,***
***мой милый друг,***
***мой домашний друг,***
***я скоро подойду к тебе.***
***и ты, не улыбаясь, отразишь***
***седую голову мою.***

Але гэта ўжо для тых, хто нарэшце выцягне сваю самую высокую ноту. Не "*ля*", а "*до*". *Верхняе...*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

---

*Алена ІГНАЦЮК, "Нота "ЛЯ", Выд-ва "Медысонт", Мінск, 2000 г.*

# Удакладненне наўздагонку

У трэцім нумары "Крыніцы" за гэты год, дзе аналізуецца творчасць народнага паэта Ніла Гілевіча, ёсць і мой артыкул "Непаўторны талент сатырыка". Там я, між іншым, яшчэ раз спрабую даказаць, што аўтарам паэмы "Сказ пра Лысую гару" з'яўляецца ніхто іншы, як ён.

У артыкуле гаворыцца: "...хацеў бы звярнуць увагу чытача на вельмі істотную акалічнасць — на вызначэнне жанру паэмы, якую аўтар назваў "Сказам". Сказ як жанр вядомы ўсходнеславянскаму фальклору (азначае аповед, сказанне, па-польску — гавэнда). У літаратурным ужытку паявіўся ў нас на Беларусі менавіта са з'яўленнем "Сказа пра Лысую гару". Хіба можна лічыць выпадковасцю, што гэта азначэнне жанру "знайшоў", а дакладней узяў з фальклору паэт, які ў той жа час з'яўляецца прафесійным фалькларыстам? Такім паэтам-фалькларыстам у нас з'яўляецца Ніл Гілевіч, другога мы не ведаем".

Мае меркаванні канчаткова ўдакладніліся, калі ўжо пасля выхаду "Крыніцы" з друку, гартаючы старыя часопісы, я напароўся на адну цікавую ў плане "лысагорскай тэмы" рэч. Высветлілася, што выказанае мной сцвярджэнне, нібыта дэфініцыя жанру "сказ" пачалася з напісання "Сказа пра Лысую гару", патрабуе ўдакладнення. Аказваецца, паняцце "сказ" ужо ўжывалася за год да напісання паэмы. У трынаццатым нумары "Вожыка" за 1969 год змешчаны вершаваны твор досыць ладнага памеру (124 радкі), які аўтар таксама назваў "сказам". Вось некалькі характэрных для стылю гэтага твора строф:

***Я знаю шмат пра Камароўку***
***Ды <u>сказ</u> пара мне закругляць.***
***І на расстанне наша зноўку***
***Я запрашаю вас на пляц.***

***Цудоўны пляц, і глянуць люба —***
***Кругом паэзія сама!***
***І імем Коласа Якуба***
***Яго назвалі нездарма.***

***Адно ў мінчан ёсць нараканне:***
***У самым цэнтры, пасярод,***
***Даўно ляжыць Якубаў камень —***
***Ужо не месяц і не год.***

***Пісала прэса: помнік будзе,***
***Дык вось, ці жартам, ці ўсур'ёз,***
***Але пра камень кажуць людзі,***
***Што ўжо ён трошачку падрос...***

Гэты сказ пра Камароўку, на маю вялікую радасць, падпісаны імем Ніл Гілевіч!

Вось усё і знітоўваецца. Пераканаўча падмацоўваецца маё меркаванне наконт таго, што паняцце "сказ" у сучаснай беларускай літаратуры ўпершыню ўжыў Н. Гілевіч. Названая публікацыя ў "Вожыку" сведчыць, што жанравая дэфініцыя "сказ" ужо жыла ў свядомасці паэта яшчэ да напісання "Лысай гары", што ўнутрана ён ужо звыкся з ёю як з удалай і апраўданай знаходкай, відаць яна задавальняла яго больш, чым іншыя.

Вельмі шкада, што ніхто з даследчыкаў, якія займаліся пошукамі аўтара знакамітай паэмы, у свой час не звярнулі на гэта ўвагу. Думаю, між іншым, што яшчэ ў 1969 годзе аўтар як бы заклаў "код" для нашчадкаў, каб яго імя адкрылі, спадзяваўся, што прыйдзе час і яго назавуць.

Усе яго далейшыя паводзіны, як я мяркую, сведчаць аб гэтым. Цяпер можна больш дакладна яшчэ раз прасачыць шэраг падзей і паводзіны аўтара "Сказа". Калі новая хваля пошукаў Ведзьмака не дала ніякіх вынікаў і імя Н. Гілевіча многімі аўтарытэтамі адхілялася, гэта магло яго рассмяшыць і раззлаваць. Ён палічыў, што будзе лепш не заяўляць публічна аб аўтарстве, а працягваць пісаць свае "сказы" і такім чынам даказаць усім, хто сапраўдны аўтар паэмы. І гэта яму бліскуча ўдалося, калі ў 2000 годзе з'явіўся яшчэ адзін шэдэўр "Сказ пра Лігу Чыстакроўных", які У. Конан справядліва паставіў у адзін рад са "Сказам пра Лысую Гару".

Але галоўны "ключ" для разгадкі, як я ўжо зазначыў у "Крыніцы", схаваны ў калектыўным подпісе пад яшчэ адным "сказам" "Сказ аб незвычайнай эпідэміі ў старажытнай Тутэміі" ("ЛіМ" за 27.12.1996 г.). Тэма заслугоўвае таго, каб яшчэ раз паўтарыць прозвішчы аўтараў:

***Францішак Вядзьмак — Лысагорскі***
***Баркулаб Дамавік — Крывіцкі***
***Базыль Раскапэнда — Бабэцкі***
***Вавіла Ваймяцца***
***Зімавей Зюзя***
***Амільяін Заткала — Задняпроўскі***

Сапраўдныя прозвішчы Баркулаба і Базыля мы ўжо ведаем па кнізе "Ачмурэнне" і "Гэй, наперад! Гэй, назад!", выдадзенай ў 1999 годзе выдавецтвам "Хата". У нікога гэта не выклікае сумнення, бо гэтыя псеўданімы пацверджаны сяброўскімі шаржамі на Н. Гілевіча, якія ён не апратэставаў. Гэта значыць — згадзіўся. А нам і мне ў прыватнасці нічога больш і не трэба. Выходзіць, што ўсе пералічаныя шэсць псеўданімаў у тым ліку і Францішак Вядзьмак-Лысагорскі належаць **Нілу Сымонавічу Гілевічу**!

Дарэчы, прозвішча Лысагорскі аўтар "Сказа" ўзяў зусім не таму, што сам быў лысагорцам, як гэта лічылі многія даследчыкі. Па ўласным прызнанні Н. Гілевіча ў артыкуле "Быў час, быў век, была эпоха" ("ЛіМ" ад 14.04.2000 г.) яшчэ ў дзяцінстве яго глыбока ўразіў ляшскі паэт Эрвін Гой, які пісаў пад псеўданімам Лысагорскі. А Лысая гара ёсць і ў ляшскім краі...

**Яўген СТАСЕВІЧ**



# ЧАСАПІС

## “Акрыленыя словам”

Пад такой назвай у Магілёве выйшаў зборнік артыкулаў, успамінаў, падрыхтаваных на аснове матэрыялаў Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі 1999 года. Яна прысвячалася надзённым праблемам развіцця беларускай літаратуры і мовы, але перадусім — памяці вядомых крытыкаў, якія звязалі свой лёс з Магілёўскім педагагічным інстытутам, а цяпер Магілёўскім дзяржаўным універсітэтам імя Аркадзя Куляшова — Якуба Усікава і Валерыя Атраховіча. Адзін з іх пражыў нямала, другі пайшоў з жыцця заўчасна, але абодва пакінулі яркі след і ў літаратуразнаўстве, і ў сэрцах тых, хто ведаў іх, разам з імі працаваў. Адкрываецца ж зборнік уступнай прамовай, зробленай на канферэнцыі, рэктарам універсітэта М. Аўласевічам, які, будучы студэнтам Полацкага педагагічнага вучылішча, вучыўся ў Я. Усікава, а таксама лістом да ўдзельнікаў канферэнцыі члена-карэспандэнта НАН Беларусі М. Мушынскага, які з-за “загружанасці навуковай і арганізацыйнай працай”, не змог прыняць удзел у гэтым творчым форуме. Ён прамаўляе ўхвальныя словы ў адрас В. Атрашкевіча: “Няма сумнення, што ў новай “Гісторыі беларускага літаратуразнаўства”, якая абавязкова будзе напісана, дзейнасць Валерыя Іосіфавіча знойдзе найлепшае асвятленне і годную ацэнку, як і светлая асоба самога Валерыя Іосіфавіча, таленавітага, прыгожага, жыццелюбівага чалавека, які пакінуў глыбокі і непаўторны след у беларускай навуцы: нацыянальнай культуры і застаўся ў памяці нашчадкаў, сваіх вучняў і паслядоўнікаў”. Першы раздзел кнігі складаюць успаміны пра В. Атрашкевіча і Я. Усікава. Сэнс зробленага гэтымі літаратуразнаўцамі відаць па назве матэрыялу М. Абабуркі — “Яны працавалі на будучае...” Аўтар, пры ўсім іншым, звяртае ўвагу і на ўменне знаходзіць належны кантакт з слухачамі: “І Якуб Кірылавіч, і Валерый Іосіфавіч былі ў студэнцкай аўдыторыі нібыта сапраўдныя артысты і чараўнікі. Вельмі выразнае і экспрэсіўнае чытанне не толькі чужых выказванняў і тэкстаў, але і магічнае валоданне сакавітай роднай мовай поўнасцю зачароўвалі любую аўдыторыю, асабліва жаночую. І сёння некаторыя выкладчыцы і супрацоўніцы розных аддзяленняў універсітэта прызнаюцца, што беларускую мову і літаратуру зубрылі не толькі дзеля таго, каб ведаць і здаць экзамен ці залік на “выдатна”, але і каб спадабацца такім абаяльным і элегантным выкладчыкам, якія выступалі перад імі”. “Чалавек шчодрай душы і светлага розуму” — так ставіцца да Я. Усікава В. Рагаўцоў, які, як вядома, хораша зарэкамендаваў сябе не толькі ў мовазнаўстве і літаратуразнаўстве, а і ў паэзіі, з'яўляючыся аўтарам некалькіх зборнікаў вершаў. А напачатку яму шмат у чым дапамог Я. Усікаў: “Рады, што выпала мне (ці правільней будзе сказаць — пашанцавала, пашчасціла) сустрэцца, пазнаёміцца, пасябраваць з чалавекам шчырай і шчодрай Душы, светлага Розуму, нястомным руплівіўцам на ніве нашага прыгожага пісьменства, — з Якубам Кірылавічам УСІКАВЫМ”. Я. Клімуць (“Мэтанакіраванасць”) прыгадвае В. Атрашкевіча, аб'ектыўна ўзнаўляючы яго жыццёвы і навукова-творчы шлях. Ды і іншыя матэрыялы даюць шмат для лепшага і больш глыбокага разумення гэтых двух літаратуразнаўцаў, крытыкаў: А. Канапелькі (“Сяброўства не забываецца”), М. Караткова (“Якімі іх помню”), Я. Клімуця пра Я. Усікава (“Нястомны працаўнік”), С. Украінкі (“Жуpавы”). Другі раздзел зборніка склалі публікацыі, што закранаюць некаторыя моманты літаратурнага працэсу, а таксама гісторыі літаратуры (“Паэтычнае ўвасабленне вобраза русалкі ў творчай спадчыне М. Багдановіча” Т. Балдышэўскай, “Тыпалогія мастацкага перакладу Тэарэтычны аспект” М. Кенькі, “Асабістая пазіцыя крытыка” Я. Клімуця і іншыя). У трэцім раздзеле асвятляюцца праблемы мовазнаўства. Сярод артыкулаў — такія, як “Колькасна-іменныя прыназоўнікавыя канструкцыі ў сучаснай беларускай мове” Я. Клімуця, “Хіязм ці паралелізм? На матэрыяле беларускай драматургіі” Н. Рагаўцова, “Элементы вуснагутарковага маўлення ў творах М. Зарэцкага” І. Ячмянёвай...

А завяршае кнігу раздзел “З літаратурнай спадчыны”, у якім можна пазнаёміцца з артыкуламі Я. Усікава “Экзамен на творчую сталасць” (пра паэзію В. Рагаўцова) і В. Атрашкевіча “Праблема аўтабіяграфізму ў апавяданнях М. Гарэцкага”, а таксама з урыўкамі з успамінаў Я. Клімуця “З пройдзеных сцежак”.

Міхась ГЕНЬКА

# ПАЭЗІЯ

## Алесь БАДАК



•

*Тое, што не збудзецца,*
*Для нас*
*Даражэй, чым тое, што збылося.*
*Пра яго мы згадваем не раз,*
*І яго мы ў марах так узносім!*

*Варта толькі проста захацець,*
*Каб у ім змяніць усё, што хочаш.*
*І ніхто не зможа — толькі смерць —*
*Адабраць у нас яго адноўчы.*

*А пакуль мы ёсць, яно жыве.*
*Хоць яго мы прыдумляем самі.*
*Можа быць, на ім і гэты свет*
*Дзень і ноч трымаецца вякамі.*

### Чыркнуўшы запалкай

*А ты кажаш, агонь нежывы.*
*Паглядзі, як ён склаў свае крыльцы,*
*Як дрыжыць, бо яшчэ не прывык, —*
*Маіх рук і дыхання баіцца.*

*Не спрабуй яго толькі лавіць*
*Або несці на ганак, дзе вецер:*
*Што як возьме ён і паляціць*
*Матыльком жаўтакрылым па свеце?!*

*І не трэба яго без прычын*
*Выклікаць — гэта так небяспечна!*
*Ён, вядома ж, узнікне, як джын.*
*Ён гатовы служыць табе вечна.*

*Каб не вымер іх род на зямлі,*
*Ён любому служыць будзе рады*
*І з'яўляцца, каб мы памаглі*
*Даць жыццё яго новаму брату.*

*Колькі іх побач з намі жыве,*
*Да пары нам нябачных,*
*Што марыць*
*Так, як мы, захапіць гэты свет,*
*Каб была ў ім улада пажараў.*

*Не чапай, хутка знікне ён сам*
*У няведамым нам вымярэнні*
*І цярпліва чакаць будзе там,*
*Калі нехта сюды яго верне.*

### Сны

*Такія сны, што хочацца застацца*
*І жыць у іх без гора і нуды.*
*Усіх любіць, нікога не баяцца,*
*Быць вольным не часова, а заўжды.*

*Такія сны, што хочацца адноўчы*
*У іх сысці і целам, і душой,*
*Заплюшчыўшы перад дарогай вочы,*
*Як дзверы зачыніўшы за сабой.*

### Сустрэча з ваўкалакам

*На дарозе, дзе няма ні знака,*
*Дзе не размінуцца і дваім,*
*Я сустрэну раптам ваўкалака*
*І спынюся моўчкі перад ім.*

*Вочы ў вочы глянем з насцярогай,*
*І па стоме цяжкай і журбе,*
*Доўгаю народжаных дарогай,*
*Кожны з нас пазнае ў іх сябе.*

*— Азірніся, — ваўкалак мне скажа. —*
*Ты хіба не бачыш,*
*За спіной*
*Лівень часу, велічны і страшны,*
*Размывае шлях зваротны твой!*

*Усміхнуся горка:*
*— Я даволі*
*На зямлі пажыў сярод людзей*
*І шукаў не золата, а волі.*
*Але там няма яе нідзе.*

*— Што ж, — ён мовіць, — гэтую дарогу*
*Выбраў недарэмна ты, відаць.*
*Воля — тут.*
*Ды толькі больш — нічога.*
*За яе патрэбна ўсё аддаць.*

*— Я ў былым і так усё пакінуў! —*
*Выдыхну і вусны задрыжаць. —*
*Адшукаю волю тут ці згіну —*
*Што згублю?*
*Няма чаго губляць?*

*— Але нам з табой не размінуцца*
*На дарозе гэтай аніяк!*
*Нехта мусіць збочыць ці вярнуцца.*
*Нехта — разумееш? — а не я!*

*Воля — гэта проста адзінота.*
*Адзінота — кара, а не дар.*
*Шлях мой — да людзей.*
*Не знаю, хто ты.*
*Лепей збоч па-добраму.*
*Не дай*

*Стаць сабе дарэмнаю ахвярай.*
*— Хопіць страшыць! — крыкну. —*
*Замаўчы!*
*І пад ногі*
*Упадуць нам хмары,*
*І маланкі бліснуць, як мячы.*

*Гэта неба і зямля сальюцца*
*Там, дзе нас чакае небыццё.*
*Гэта ў бойцы поўнасцю сатруцца*
*Межы паміж смерцю і жыццём.*

*... Год міне, і сто гадоў, і дзвесце.*
*Нехта іншы выйдзе на той шлях.*
*І прад ім, як пыл, падыме вецер*
*Двуадзіны нескароны прах.*

### Дарога

*Дарога неслася на ўсход.*
*А мне хацелася — на захад.*
*Я крыкнуў ёй:*
*— Ты столькі год*
*Туды імчышся.*
*Хоць за заўтра,*

*Хоць раз мне крыху паслужы,*
*Назад, на захад, павярніся.*
*Ты гэта можаш.*
*Памажы.*
*Ты ж анікога не баішся.*

*Але сказала на хаду*
*Сяброўка вечнасці — дарога:*
*— Я б памагла, ды на бяду*
*Служу ўжо іншаму я богу.*

*Калі ж адолець зможаш страх,*
*Вазьмі стралу і лук чароўны,*
*Забі майго гаспадара.*
*Каму прыслужваць — мне ўсё роўна.*

*І я падняў чароўны лук,*
*На ўсход, у далеч, над дарогай*
*Пусціў атрутную стралу.*
*— Усё.*
*Няма твайго больш бога.*

*Але пачуў:*
*— Мне ўсё адно.*
*Тут столькі згінула народу!*
*І ўжо ў твой бок ляціць даўно*
*Страла, пасланая з усходу.*

### Матылёк

*Мы з табою плаваем па небе,*
*Як хто-небудзь іншы па рацэ,*
*Аблачынкі серабрысты невад*
*Па чарзе трымаючы ў руцэ.*

*Што мы ловім? Ранішнія зоры*
*Ці няздбытных мар блакітны дым?*
*Матылёк кружыўся тут учора*
*З крыльцам зіхатліва-залатым.*

*А другое крыльца, нібы шкельца, —*
*Праз яго бруілася святло.*
*— Хопіць, — ты ўздыхаеш. —*
*Ён, здаецца,*
*Лепшае знайшоў сабе жытло.*

*Але я прашу яшчэ хвіліну.*
*Вельмі дарагі мне матылёк,*
*Што на волю з нашае карціны*
*Праз акно расчыненае ўцёк!*

*Толькі ты баішся гаспадыні:*
*Раптам яна зойдзе у пакой*
*І заўважыць, што на той карціне*
*Не хапае ўжо і нас з табой!..*

### Лістапад

*Ты ў гэты ўвойдзеш лістапад —*
*У жоўты дождж, барвовы вецер,*
*І ўжо не вернешся назад,*
*Мая адзіная на свеце.*

*Мне здасца дзіўнаю гульнёй*
*Твае раптоўнае знікненне,*
*І я пайду ўслед за табой,*
*Ступаючы па жоўтых ценях.*

*Калі ж зняверуся зусім*
*І сам сабе скажу: “Пустое!” —*
*“Я побач! —*
*Голасам тваім*
*Шапне лістота за спіною.*

*Я тут, вакол, — як дзень і ноч*
*Ды не шукай мяне паглядам.*
*Калі ты хочаш быць са мной,*
*То стань таксама*
*Лістападам.*

*Жыццё, як грошы, памяняй*
*На гэту дзіўную пяшчоту.*
*Мы паляцім у вечны рай,*
*А ўвесну вернемся лістотай.*

*Але калі ты не паэт,*
*Калі каханне — толькі словы,*
*Сыдзі, падняўшы мой партрэт —*
*На лавачцы лісток кляновы.*

*Праз сто ці тысячу гадоў*
*Душа пакорыцца адчаю,*
*У гэты парк ты прыйдзеш зноў,*
*І я па ім цябе пазнаю”.*

### Амаль дзіцячы верш

*Праз акно світальным парой,*
*Збіўшыся са шляху нязмнога,*
*Заляцела воблака ў пакой*
*І спачыць прылегла на падлогу.*

*Потым, азірнуўшыся вакол,*
*Покуль не прачнуліся ў кватэры,*
*Узнялося на пісьмовы стол —*
*Аж заварушыліся паперы.*

*Гэты шолах ціхі*
*незнарок*
*Так яго чамусьці напалохаў —*
*Нібы непрыручаны звярок*
*Кінулася зноўку на падлогу.*

*Знікла за гардзінаю, але*
*Тут жа перабегла пад канапу.*
*І тырчэлі смешна з-пад яе*
*Доўгі хвост і пухленькія лапы.*

*А калі прайшоў дарэмны страх,*
*Воблака забралася на крэсла*
*І адтуль, зірнуўшы па баках,*
*Зноўку на пісьмовы стол узлезла.*

*Пачакала крыху, а затым*
*Гэтак усхадзілася, што ўгору*
*Паляцелі белыя лісты*
*З вершам, недапісаным учора.*

*Покуль апускаліся на стол,*
*Воблака за імі назірала,*
*І ў лістах яно сваіх братоў,*
*Што адвыклі ад нябёс, прызнала.*

*Вось яны рванугліся вышэй,*
*Аж да самай столі*
*узляцелі,*
*Быццам, праўда, ўсе лісты раней*
*Лётаць, нібы воблакі, умелі.*

*І тады за імі са стала*
*Следам узнялася аблачына,*
*Падхапіла іх і панясла*
*Праз акно ў нямыя далячыні.*

*І, калі прыглядзецца, з зямлі*
*Кожны мог убачыць, як высока*
*У блакіце ранішнім плылі*
*Ціха папяровыя аблокі.*

*І табе не трэба шкадаваць:*
*Хоць твой верш за далягглядам згіне —*
*Што яшчэ паэзіі жадаць,*
*Як не гэткіх казачных вышыняў?!*

ПРОЗА

Міхась ЗАРЭМБА

# ПАСЛЯ ПАЖАРУ



НАВЭЛА

Едкі дым і пранізлівы крык:" Пажар!" прымусілі яго (адкуль толькі сілы ўзяліся?) кульнуцца з ложка і на карачках вобмацкам папаўзці да акна, якое выратоўна свяцілася ў задымленай бакоўцы.

Створкі акна былі прачынены, і Павел Ластаўка надзіва спрытна ўзлез на падаконнік і тут жа паспешліва вываліўся ў густы маліннік, што шырокай дзялянкай падступаўся да паўночнай сцяны хаты. Ён дзейнічаў несвядома, адчуваючы страх блізкай небяспекі, які вымушаў яго ратавацца ўцёкамі і паўзком прадзірацца праз гнуткі зараснік.

Выбух газавага балона дагнаў Паўла Ластаўку ўжо ў жытнёвым загоне, прымусіўшы яго знерухомець і тыцнуцца тварам у зямлю.

Ён, зняможаны і спалатнелы, нерухома ляжаў на ўгрэтай зямлі, пакуль агонь не перакінуўся на дах хаты і не пачаў страляць шыфер. І гэтыя рэзкія гукі шыфернай страляніны канчаткова працвярэзілі Паўла Ластаўку, вярнулі яму ўсведамленне безнадзейнай рэальнасці.

Гарэла хата, якую ён будаваў, складаў бервяно да бервяна, аздабляў вокны рознымі ліштвамі, усё даводзіў да ладу сваімі рукамі, умелымі і мазолістымі. Збіраўся ашалёўваць сцены знадворку, пафарбаваць іх у салатавы колер, а з сенцаў зрабіць прасторную веранду... Але яго даўнія намеры засталіся намерамі, бо ўсё перайначвала алкагольнае вар'яцтва.

Павел Ластаўка бачыў шызыя клубы дыму над дахам сваём хаты, чуў лямант людзей і пранізлівую сірэну пажарнай машыны, і яму хацелася крычаць, выць, плакаць... Але толькі глухі, жаласны стогн вырваўся з ягоных збалелых грудзей. І ён зноў страціў прытомнасць...

Ачнуўшыся ціхім волкім надвячоркам, Павел Ластаўка спачатку не мог уцяміць: дзе ён, што з ім? А калі да яго дайшло — заскрыгатаў зубамі, нават заскуголіў, назіраючы слязлівымі вачыма паверх жытніх каласоў, што красаваліся жоўтым пылкам, за прагарэлым дахам сваёй хаты. Аголены цагляны комін, які асвятлялі барвовыя промні заходзячага сонца, узвышаўся над учарнелымі сценамі будынка злавесным стаўбуном. Нібы гэта быў адметны знак нейкай непазбежнай бяды...

Дачакаўшыся ў жыце прыцемкаў, Павел Ластаўка перабраўся да невялікага ляска, які падступаўся да вёскі Луг з паўднёвага боку амаль што да самых агародаў. Там, на ўзлеску, у старой мінулагодняй тарпе саломы ён аблюбаваў сабе начлежку, у якой адлежваўся двое сутак без вады і ежы. Нібы аб'явіў сабе жорсткі і канчатковы прысуд.

Але ўсё ж штосьці ў рэшце рэшт прымусіла яго вылезці з саламянай нары на божы свет. Глыбокай ноччу ён са звярынай асцярожнасцю даклыпаў да сваёй сядзібы, пры месяцавым святле пакружыў каля пажарышча, са страхам узіраючыся ў чорныя пустыя вачніцы выгарэлых вокнаў, нібы ўсё яшчэ не верачы ў свае неверагодныя мроі-трызненні...

Потым сядзеў на лавачцы ў цёмным начным садзе, пад разгалістай антонаўкай, глядзеў на сваю хату, асветленаю шчарбатым месяцам, зняверчаную бязлітасным пажарам, і нягучна скуголіў, нібы пабіты, бяздомны дварняк... І, здаецца, упершыню за апошні злыбедны час пашкадаваў сябе, узнаўлюючы ў пакутных думках сваё затурканае жыццё, свой безнадзейна апрыклы лёс...

"Чаму ты такі нешчаслівец? Няўжо так і сыдзеш у зямлю праклятым азызлым прапойцам?"

І раптам (а можа, гэта зноў прытрызнілася?) пачуўся дакорліва-спачувальны ціхенькі голас: "Нікуды ты не сыдзеш... Цяпер ты, сынок, павінен працай скупіць свой цяжкі грэх... Інакш табе не знойдзецца месца ні на зямлі, ні на небе... Ты ажывеш, ты пабудуеш новую хату..."

Уздрыгнуў Павел Ластаўка, уверх, на зорнае неба зірнуў (голас жа аднекуль адтуль даляцеў), толькі нічога не ўбачыў і больш нічога не пачуў. Хаця пра "новую хату", дальбог, не прымроілася...

Амаль да світанку блукаў па сваёй сядзібе Павел Ластаўка: і ў садзе, і каля ўчарнелай хаты, і каля хлява з пуняй, дзе зрэдку сонна ўздыхала карова ды парохквала свінчо, і ў агародзе паміж градамі цыбулі, агуркоў, фасолі... Найбольш затрымаўся каля калодзежа (якраз у вядры была вада), і зноў жа асцярожна, каб не шумнуць у начной цішы, нагбом жлукціў цеплаватую ваду, пераганяючы сухую смагу апошніх дзён. Піў прагна, абліваючыся і адчуваючы, як да яго пакрысе вяртаюцца сілы, як ён ажывае, нібы нейкім цудам вяртаецца з таго свету...

...Ён прахапіўся ад голасу, ціхага, але настойлівага: "Тата, я чакаю цябе!" А можа, яму, зняможанаму і азябламу, усё падалося, прымроілася? Як галюцынацыя, як нейкае раптоўнае азарэнне... Ён паспрабаваў суцішыцца, хоць крыху сагрэцца ў сваёй саламянай нары, падціснуўшы калені да грудзей і абхапіўшы галаву рукамі...

Толькі супакаенне не прыходзіла. Ды і адкуль яно магло з'явіцца пасля ўсяго перажытага і перапакутаванага, калі разбэрсаныя сілы ледзьве падтрымлівалі хліпкі агеньчык ягонай падсвядомасці. І ўсё ж гэты мігатлівы агеньчык зноў высвеціў з цемначы дрымоты-трызнення прачулы, дрыготкі голас: "Тата, тата, ачніся!"

У рэшце рэшт штосьці падштурхнула яго, змусіла вылезці з саламянага логава, прыслухацца і агледзецца. Хаця што можна было ўбачыць у паўночнай цемры? Ён няўцямна патаптаўся каля зляжалай тарпы леташняй саломы, якая гэтыя апрыкрыя дні пасля пажару стала ягонай сховай і начлежкай, абтрос са сваёй кудлатай галавы калючую пацяруху, працёр пальцамі слязлівыя вочы і з цяжкай роспаччу ўздыхнуў. Нарэшце ўсё-такі разгледзеўся, заўважыў, што ў небе вісіць шчарбаты месяц, асвятляючы наваколле халодным, неонавым святлом. І гэтае святло дапамагло яму зарыентавацца ў прасторы, тут жа ўцяміць, дзе ён, што з ім, нібы да яго раптам вярнулася прытомнасць.

Цяпер Павел Ластаўка ўгледзеў непадалёку цёмную сцяну лесу, а там, наперадзе, ледзь прыкметныя абрысы крайніх хатаў вёскі. Ва ўсім, прывідным і нерэальным, ён нечакана адчуў нешта вельмі блізкае і дарагое, якое, быццам начное рэха, агукваў жаласны, умольны голас: "Тата, тата, та-а-т-аа..." І далятаў ён аднекуль зверху, з зорнай вышыні — такой таямнічай і недасяжнай.

Бацька па ўтравелым папары наўздагад паволі паклыпаў да дарогі, падуладны ціхаму паднябеснаму клічу, які настойліва вёў за сабой...

Напачатку ён нават не ведаў: што будзе рабіць далей, куды скіруецца ў насцярожанай цемры, крыху падсветленай шчарбатым месяцам? Мусіць, так вось выходзяць на начны шпацыр лунацікі, рызыкоўныя і загіпнатызаваныя.

Апынуўшыся на дарозе, ён стаў у глыбокім роздуме, быццам вызначаючы далейшы кірунак свайго руху за патаемным голасам дачкі, які па-ранейшаму звінеў у вушах трывожным маячком.

—Што ж гэта я натварыў?! — прастагнаў Павел Ластаўка.

Яркі прамень аўтамабільных фараў, які раптоўна выслізнуў з-за прыдарожнага хмызняку, асляпіў, прымусіў няўцямна ступіць да абочыны. Параўняўшыся з ім, машына рэзка спынілася, аж завішчэлі тармазы. Як толькі асеў пыл, рашуча адчыніліся пярэднія дзверцы, і ні то спалоханы, ні то здзіўлены голас выгукнуў:

—Пашка, няўжо ты?! Мы ж цябе, прабач, на той свет праводзілі... Ці ты назад вярнуўся? Няўжо не спадабалася царства нябеснае?..

Гэта быў Ягор, сын лесніка Ігналя. Усё той жа з'едлівы смяшок, усё тая ж паблажлівая падначка.

—Вось жа адчыбучыў дык адчыбучыў! І хто б мог падумаць, любімчык Пашка! Ці, можа, з павіннай тупаеш? Сядай, падвязём... Мы тут з татунькам з пагулянкі вяртаемся, Мікіткаў дзень нараджэння святкавалі, з ікоркай ды вугаркам. І юшачкай, і шашлычком...

Ягор з натугай вылез з "Волгі", ступіў два-тры крокі да згорбленай постаці, якая ў бакавым прыцененым святле фараў здавалася нейкім дзівакаватым прывідам.

—Іншапланецянін! — здзекліва рагатнуў таўстун, углядаючыся ў шчаціністы твар аднавяскоўца. — Нічога, Пашка, не ты першы, не ты апошні... Жывыя будзем — не памром! Сядай, паехалі, я ж з табой яшчэ не разлічыўся за рамонт помпы. Як кажуць, што вінен, аддаць павінен!

—Не трэба мне ніякіх разлікаў, — ціха вымавіў Павел Ластаўка. — Мяне дачка кліча, я толькі што чуў яе голас. Яна ў бальніцы...

—Ну і ну! Дык у цябе ж, Пашка, дах паехаў! — прытворна войкнуў Ягор. — Ці, можа, белага коніка асядлаў?

—Які дах, які конік?! Вам жарты, а ў мяне — гора!

—Прымі нашы спачуванні, бяздомны пагарэлец! — яшчэ больш балюча ўкалоў леснікоў сын. — Спачатку кайфуеш, а потым бядуеш... Не ўмееш піць — кадзіруйся! Галаву трэба мець на плячах, а не самагонны сухапарнік...

Штосьці Ягора ўзлавала, і ён пачаў дапякаць безабароннага Паўла Ластаўку з нейкай асаблівай зласлівасцю.

—Канчай, Ягорка, траліваліць! — у адчыненае акенца задніх дзверцаў "Волгі" высунуўся глюгасты твар Ігналя, над якім пластмасавым казырком навісала фуражка з лесніковай кукардай. — Паехалі! А ты, Паўлюк, не распускай слінкі: хопіць сябе караць — пара мілаваць.

І ўжо ў машыне, калі Павел Ластаўка асцярожна прымасціўся на заднім сядзенні побач з Ігналём, а "Волга" паволі рушыла з месца, ляснік захмялела працягваў:

—Вучыся жыць у майго Ягоркі! У яго вунь якія гарызонты-далягляды, з самімі міністрамі парыцца ў лазні... Ды калі б я сам быў без тармазоў, хіба ж затрымаўся на маёй ляснай пасадзе?

—Ты ў мяне, татулька, мудры! — праз плячо, не азіраючыся, кінуў Ягор. — На такіх дзяржава трымаецца, а не на нейкіх там нездаляках — мазурыках...

—Мы самі сабе дзяржава! — чмыхнуў Ігналь і ляпнуў свайго суседа па плячы. — Дык што з дачкой? Кажуць, яе апякуе сталічны прафесар...

—Не-е.. ведаю, — ціха адказаў Павел Ластаўка. — Я чуў Верын голас, яна клікала мяне...

—Галюнікі, Паўлюк, галюнікі! Тут не толькі дах можа паехаць...

—Мне не прыснілася і не прымроілася, — ён сказаў з несхаванай крыўдай. — Вера чакае мяне!

—Ага, зачакалася, — зноў азваўся Ягор, вырульваючы "Волгу" на вузкую вясковую вуліцу. — Вось дзе гаротніца-пакутніца... Не тое, што нашаму Мікітку! У Англію на цэлы месяц паляціць з чарнобыльскай групай, будзе адпачываць у экалагічным раі.

Выслухаўшы сына, Ігналь нейкі час дрымотна маўчаў, а потым смачна пазяхнуў і задаволена сказаў:

—Жывуць жа людзі!

Пад'ехалі да белай цаглянай агароджы, якая акружала двухпавярховую леснікову харомiну, што і ў няясным месяцавым святле ўражвала сваёй дыхтоўнасцю і раскошнасцю. І дзве спічастыя вежы над дахам, і шкляная прасторная мансарда з круглымі вокнамі, аздобленымі ўзорыстымі разнымі ліштвамі. Што і казаць, пастараўся Павел Ластаўка, даў волю свайму сталярскаму ўмельству, пафантазіраваў, ухвальна выканаўшы Ігналёў заказ. Усё, як мае быць, па вышэйшым разрадзе будаўнічай навукі. Толькі гэта засталося ў мінулым, калі была цвёрдая рука і вострае вока, калі майстравалася з ахвотай і радасцю душэўнай...

Павел Ластаўка вылез з машыны, спыніўся, у нерашучасці перамінаючыся з нагі на нагу. Ён нейкі момант ўзіраўся ў цьмяныя абрысы Ігналёвага церама, а самому туманным прывідам бачылася свая хата, чорная, абгарэлая, без даху і вокнаў. І над усім нямым клічнікам узвышаўся задымлены цагляны комін. Як мройны знак скрушлівай журбы...

Яму раптоўна заблажыла: даўкі сухі камяк падкаціў да горла, зашумела, зазвінела ў галаве, і ён аж пахіснуўся, ледзьве ўтрымаўшыся на нагах. І зноў жа, нібы губляючы прытомнасць, Павел Ластаўка пачуў жаласны галасок: "Тата, я чакаю цябе!". І тут жа другі голас, далёкі і дакорлівы, умольна папрасіў: "Сынок, ратуй сваю дачушку! Богам малю-умаляю, адумайся, пачуй крык маёй збалелай душы! Ты ж мая крывіначка!"

—Я зараз, я бягу! — выдыхнуў Павел Ластаўка і памкнуўся ў начную цемру.

Але Ягор, які стаяў побач, зрэагаваў на нечаканы фінт свайго нездаляшчага спадарожніка і пузам перагарадзіў яму дарогу.

—Стой, Пашка, тармазі! Я лунацікаў бачу ўпершыню... ды яшчэ на белым коніку...

—Я — у бальніцу, там — дачка! — ён выгукнуў як у трызненні.

Ягор рашуча, без усялякіх цырымоній, схапіў Паўла Ластаўку за плечы, груба страсянуў, нават прыкрыкнуў:

—Хопіць, супакойся! Дзе ж ты раней быў, чаму ж раней не ратаваў дачку?! Пераначуеш у нас, а заўтра раніцай я еду ў горад, завязу ў бальніцу.

—Ды цябе ж, Паўлюк, спачатку трэба памыць, пагаліць і прычасаць, чмыхнуў Ігналь, які, расчыніўшы жалезныя вароты для "Волгі", вярнуўся назад і спачувальна пазіраў на Паўла Ластаўку ў яркім святле ліхтара з круглым абажурам, што вісеў на слупе перад уваходам на леснікоў двор. — Прабач, вельмі ж ты падобны на бамжа з гарадской звалкі. Цябе ў такім выглядзе нельга пускаць да хворых — можаш давесці да інфаркту.

І на гэты раз ён прамаўчаў, пракаўтнуў, як горкую пілюлю, яшчэ адну здзеклівую насмешку. Дзе ж тут ужо крыўдаваць, спрабаваць абараніцца, апраўдвацца? Калі тупая абыякавасць і жаласная бездапаможнасць змусілі яго пасля пажару тры дні хавацца ў саламянай тарпе, мучыцца, галадаць, даводзячы сябе да апошняй мяжы... У рэшце рэшт вяршыць над сабою пакутны і жорсткі самасуд.

Раптам Паўлу Ластаўку зноў зрабілася млосна, і ён, ціха войкнуўшы, пачаў паволі апускацца на калені. Але яму не далі ўкленчыць: Ягор з бацькам падхапілі яго пад рукі, паставілі на ногі і разгублена пераглянуліся.

—Што з ім? — узрушана спытаў бацька.

—Адключыўся! — рэзка сказаў сын. — Дайшоў да ручкі, а які быў майстар! Цяпер ужо прамая дарога ў бальніцу... Трэба паспяшацца, а то яшчэ, чаго добрага, акачурыцца пагарэлец!

—Не мела баба клопату, купіла парася! — толькі і сказаў Ігналь.

Паспяховасць, адэкватнасць падзеі забяспечыў сам куточак палескай зямлі, у "жывых дэкарацыях" якога праходзіла значная частка фестывальных імпрэз.

Далёка не кожныя мясціны Беларусі могуць здзівіць часам нават некалькімі генерацыямі таленавітых выканаўцаў-самародкаў у адной сям'і. Фэст падараваў удзельнікам і гледачам магчымасць завязаць знаёмства з такімі таленавітымі носьбітамі музычных традыцый, як Вольга Макараўна Багданава, Васіль і Міхал Казловы, Любоў Галубіцкая, Пятро Біжуноў, Васіль Карпоўскі, Павел Клімянкоў, Валерый Казлоў, з ажно двума сямейнымі калектывамі Антончыкавых вёскі Асінаўка. Сваю музыку і спевы прывезлі ў Чачэрск Антаніна, Аляксей, Кацярына і Паліна Абрамовічы, Іван Лось і Радзівон Чайка.

Разам з нашымі суайчыннікамі з жывой традыцыяй Беларусі сустрэліся суседзі, якія адначасова знаёмілі нас са сваёй: "Родники" (Расія), "Полісяни" (Украіна), "Лайкснэ" (Латвія). Кожны з гуртоў адметны. Расіяне, "хаваючы стралу", спынілі дождж, які распачаўся ў час імпрэзы. Яны — класічны ўзор аўтэнтычнага: фальклорнай суполкі з сумежнай з намі Браншчыны, "жывая традыцыя", якая ні з чым не параўнаная. Суседзі з украінскага Роўна — моцныя сцэнічныя прафесіяналы. Латышы ж літаральна "перамаглі ўшчэнт" гледачоў маладосцю, непасрэднасцю, жыццялюбствам, дбайнымі адносінамі да сваёй культурнай спадчыны. Чачэрцы, напэўна, і не заўважылі, як апынуліся сярод параў, якія зухавата круціліся ў танцах Латвіі. Такой жа павагай да традыцыйнай песеннай спадчыны і беларускай культуры кранулі ўдзельнікі гурта фолк-клуба "Маладзёвы", што пры Беларускай акадэміі мастацтваў.

Цяпер рэжысёрская група "Беларускай полькі" разам з нястомным мастацкім кіраўніком ужо скіраваная на працяг фестывальнага руху, дзе яны ў чарговы раз будуць ахвяраваць уласным часам, нервамі, галасавымі звязкамі. Да наступных фэстаў рыхтуецца ўжо даволі значная колькасць людзей. Гэта — удзельнікі сёлетняга і ўсе тыя, хто не патрапіў на яго з-за тэхнічна-фінансавых складанасцяў.

Навукоўцы абяцаюць у XXI стагоддзі рэнесанс ідэй школы сацыякультурнай антрапалогіі — даследчыкаў, якія разглядалі грамадствы, у тым ліку і сучасна-урбаністычныя, зыходзячы са структурнага аналізу іх культурнай асновы: традыцый, светаўспрымання, этнічнага мастацтва. Чырвонай стужкай праз працы Франца Боаса і яго вучняў праходзіць ідэя "гарантаванасці" месца традыцыі ў свядомасці чалавека. Ад гэтага ў пэўных умовах залежыць псіхічны і фізічны камфорт асобы, значыць — і грамадства цалкам. Звярнуцца да ўласных каранёў, якія, на шчасце, у нас яшчэ жывыя, ніколі не позна. Настаўнікі і бацькі, дзеці не проста пазіраюць на вас — яны пераймаюць, убіраюць вашы паводзіны і прыёмы мыслення, незалежна ад таго, усведамляеце гэта вы, ці не. Будзьце людзьмі, падобнымі да сваіх продкаў, — іх культура дапамагла ім захаваць сябе і перадаць яе вам. Адкрытасць да новага не абвяшчае татальнае пахаванне таго, што тваё — здаўна. Прыстасаванасць да жыцця не адмаўляе ўнутранага маральнага стрыжня. Дарослым нельга на гэта забыцца таму, што заўтрашні лёс дзяцей краіны — у іх руках.

**Вячаслаў КАЛАЦЭЙ,**
**Таццяна ПЛАДУНОВА**

*На здымку: у чаканні танцораў.*

---

Высокі прафесіяналізм скрыпача адзначаюць не толькі яго калегі. Вось, напрыклад, водгук кампазітара Сяргея Янковіча (Сола ў яго творы "Эпітафія" для скрыпкі і сімфанічнага аркестра", прысвечаны памяці загінуўшых удзельнікаў афганскай вайны, для запісу на радыё выконваў Р. Дабржынец):

— Ён сыграў проста-такі цудоўна! Добра выказаў аўтарскую задуму, і я вельмі задаволены. Скрыпач такога плана — вялікі для нашай музычнай культуры.

Усё, што ведае, умее, Рыгор Браніслававіч стараецца перадаць сваім вучням. Дзесяць гадоў вядзе ў Беларускай акадэміі музыкі клас скрыпкі, а таксама выкладае вывучэнне аркестравых партый, метад развіцця навыкаў чытання з ліста. Яго колішнія студэнты-скрыпачы працуюць у розных аркестравых калектывах нашай краіны і за мяжой — у Парыжы, Сеуле, Бейруце...

Поўная аднадушнасць у яго сям'і. З жонкай, піяністкай Лідзіяй, у шлюбе трыццаць гадоў. Яна выкладае фартэпіяна ў 130-й школе-гімназіі з музычным ухілам. Як прызнаецца Лідзія, усё жыццё ў іх прайшло пад музыку. Маюць шмат агульнага. Разам слухаюць запісы ігры Рыгора... Дарэчы, з мастацтвам звязана і яе маці — харэограф-фалькларыст, вядомым беларускім балетмайстрам быў дзед — Кастусь Алексютовіч.

Музычныя спецыяльнасці абралі абедзве дачкі Рыгора і Лідзіі. Старэйшая, Браніслава, — піяністка, малодшая Ліда — скрыпачка, лаўрэат міжнародных конкурсаў, вучылася ў вядомых педагогаў Л. Умновай, А. Янпольскага, цяпер працягвае адукацыю ў Кёльнскай вышэйшай музычнай школе. На думку бацькі, прафесійна яна ўзяла ўсё лепшае ад сям'і.

Рыгор Дабржынец і яго сям'я жывуць цікавым разнастайным творчым жыццём. І ў гэтым чэрпаюць энергію, зарад бадзёрасці, навізны.

**Вера КРОЗ**

---

# Традыцыйная народная культура: рэгіянальнасць ці мястэчковасць

Культура і адукацыя. Як часта мы размяжоўваем іх і дзелім "сферы ўплыву", калі размова заходзіць пра выхаванне маладога пакалення. Між тым, з 31 мая па 3 чэрвеня ў г.п. Акцябрскі Гомельскай вобласці адбыўся Другі рэгіянальны фестываль фальклору "Берагіня", які сцвердзіў — злучыць "сферы" культуры і адукацыі і скіраваць іх дзейнасць у агульнае рэчышча не толькі можна, але і прынцыпова важна для таго, каб займець рэальны плён нашай выхаваўчай дзейнасці.

Прынамсі, чатыры згаданыя дні доўжыліся толькі заключныя фестывальныя імпрэзы — вынік доўгай і карпатлівай працы практычна ўсіх устаноў культуры і адукацыі раёна. Распачаўшыся ж год таму, амаль адразу пасля заканчэння першага фестывалю, "Берагіня" стала не вынікам, а працэсам, які ахапіў літаральна ўсіх. Ды і не сакрэт, што плён даюць якраз не "паказальныя выступленні", а менавіта сам шлях засваення культуры, падчас якога сур'ёзная ўвага надаецца ўсім яго, засваення, этапам. Толькі так у выніку мы атрымліваем не пустую святочна-фестывальную "абалонку" народнай культуры, а глыбокі, напоўнены, цэласны яе свет.

Звычайна, калі на які-небудзь фестываль трапляеш не першы год, складана ўстрымацца ад спакусы параўнанняў. Зрэшты, "Берагіня" давала для гэтага ўсе магчымыя падставы.

Калі падчас прэс-канферэнцыі з арганізатарамі фестывалю старшыні Акцябрскага раённага выканкама Івану Паршуце задалі пытанне, які з фестываляў патрабаваў большых клопатаў і намаганняў: першы ці другі, ён... разгубіўся. І сапраўды, калі для першай "Берагіні" "рухавіком" быў, у значнай ступені, энтузіязм яго арганізатараў і ўсіх удзельнікаў, для другога патрабавалася, як кажуць, нешта іншае. І гэта "іншае" арганізатары змаглі знайсці і ўвасобіць. Усеабдымнасць і эмпірыка мінулай "Берагіні" перараслі ў прааналізаваны, накіраваны рух па шляху адраджэння рэгіянальнай народнай культуры.

Калі ў 1999 годзе цешыла вока і душу мноства самых разнастайных паяскоў, кашуль, фартушкоў, што зноў убачылі свет, выбраўшыся з бабуліных куфраў, сёлета гэта ўсё было... на хлопчыках і дзяўчатах. З'явілася сістэмнасць у падыходзе да адраджэння традыцыйных убораў. Ілюстрацыяй гэтаму стала відовішча-прэзентацыя "Народныя касцюмы ў абрадах і звычаях Рудабельскага краю", падчас якога было прадстаўлена каля паўсотні традыцыйных народных строяў, як аўтэнтычных, так і аднаўленых. Як кажуць, на ўсе выпадкі жыцця. Пры гэтым характэрным аказалася імкненне ўдзельнікаў прэзентацыі адлюстраваць у "мадэлях" рэгіянальныя асаблівасці сваёй мясцовасці, сваіх родных вёсачак.

Падчас мінулага фестывалю шмат удзялялі ўвагі неабходнасці сістэмнага падыходу і да праблемы выхавання дзяцей і моладзі сродкамі традыцыйнага народнага мастацтва. Гаварылі пра тое, што недастаткова навучыць дзіця якому-небудзь танцу альбо песні. Неабходна праз гэтыя песні і танцы даць яму цэласнае ўяўленне пра ўсю глыбіню традыцыйнай культуры, паказаць самыя розныя яе грані. Першай прыступачкай тады стаў конкурс на лепшы фартушок і пояс, які праходзіў адначасова з конкурсам танцавальных пар народных побытавых танцаў. Здавалася б простая задача нярэдка сустракала на шляху сваёй рэалізацыі неразуменне: няўжо сапраўды наяўнасць фартушка ці пояса іграе сур'ёзную ролю, калі гаворка ідзе пра народныя танцы? Аднак фінальныя імпрэзы наглядна прадэманстравалі — дзеці, чый касцюм адпавядаў конкурсным патрабаванням, а гэта значыць быў зроблены ўласнымі рукамі (самімі дзецьмі альбо разам з бацькамі, бабулямі), па-іншаму адчувалі і саму прыроду народнага танца, чым тыя, што былі апранутыя ва "уніфікаваныя" строі мастацкай самадзейнасці.

Канешне, не ўсе калектывы раёна мелі на той момант фінансавыя магчымасці для стварэння індывідуальных касцюмаў, аднак "урок" першага фестывалю даў сур'ёзны штуршок і накірунак для высноў і далейшай дзейнасці кіраўніцтва раёна. І, патрэбна сказаць, плён гэтай дзейнасці, з якім Рудабельшчына прыйшла да другога фестывалю, не можа не ўражваць. Як зазначыла падчас прэс-канферэнцыі загадчык аддзела культуры Святлана Беразоўская, пасля першага фестывалю ў раёне з'явіўся шэраг новых калектываў: дзіцячых гуртоў, у якіх хлопцы і дзяўчаты пераймаюць традыцыйную манеру спеваў, а таксама — шмат інструментальных калектываў. Спецыяльна для апошніх раён набыў больш чым 20 гармонікаў — па сённяшніх мерках лічба немалая. Значную дапамогу адчулі і аўтэнтычныя гурты, а таксама калектывы, якія існуюць пры школах раёна.

Калі два гады таму практычна ўсе госці і ўдзельнікі фестывалю з удзячнасцю і захапленнем гаварылі пра першую спробу рэалізацыі на Беларусі унікальнай ідэі — конкурсу танцавальных пар выканаўцаў народных побытавых танцаў, сёлета —упершыню ў Еўропе — на Рудабельшчыне "матэрыялізавалася" ідэя турніру дзіцячых танцавальных фольк-груп. Да фінальных імпрэз прыйшлі шэсць фольк-гуртоў па 12 чалавек у кожным з СШ NN 1, 2, 3 г.п. Акцябрскі, школ у вёсках Валосавічы, Парэчча, Рассвет, якія спаборнічалі паміж сабою ў майстэрстве народнага побытавага танца, вакальным, музычным, дэкаратыўна-побытавым мастацтве. Такім чынам ідэя сістэмнасці ў выхаванні дзяцей развілася ў сістэмны падыход да праблемы перадачы народнай творчасці. Сёння ўдзельнікі турніру, як, зрэшты, і іхнія сябры-"фанаты", што падтрымлівалі канкурсантаў на працягу ўсіх конкурсаў, ведаюць, што традыцыйная народная культура — гэта не просты "набор" песень, танцаў, вышыванак і г.д., а цэласны свет, паўнавартасная сістэма каардынат існавання нашых продкаў, не горшая і не лепшая за сучасную, а — каранёвая, родная. І — глыбока індывідуальная: што ні вёска, то свае звычаі.



Кажуць, што ў любой справе самае галоўнае — знайсці патрэбнага чалавека. У дадзеным выпадку такі чалавек — аўтар ідэі фестывалю і яго галоўны рэжысёр — вядомы беларускі этнахарэограф Мікола Козенка. Ён з'яўляецца аўтарам-складальнікам цудоўнага даведніка па фестывалі, што пабачыў свет у выдавецтве "Чатыры чвэрці". Адметна і тое, што даведнік з'явіўся не пасля фестывалю, а "дзень у дзень", так што ўсе ўдзельнікі "Берагіні" атрымалі гэтую сапраўдную энцыклапедыю традыцыйнай культуры Рудабельскага краю. Менавіта дзякуючы нястомнай працы Козенкі фестывальнае кола завярцелася так, што сёння "без болю" спыніць яго практычна немагчыма. І, бадай, галоўнай адметнасцю гэткай дзейнасці стала тое, што ў фестывальным карагодзе ўдалося злучыць разам "тры кіты": практыку, тэорыю і методыку. Упершыню ў практыцы фестывальнага руху не Беларусі падчас фінальных імпрэзаў фестывалю, дзякуючы сумесным намаганням Міністэрства культуры, Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры, Упраўлення культуры Гомельскага аблвыканкама, Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Н.К.Крупскай і Акцябрскага райвыканкама, адбылася Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Традыцыйная культура і дзеці: праблемы захавання і пераемнасці", у якой прынялі ўдзел навукоўцы-тэарэтыкі, "практыкі" ў галіне традыцыйнай народнай культуры з Беларусі, Расіі, Украіны. Праблемы, якія закраналіся ў выступленнях удзельнікаў, тычыліся розных сфер: традыцыйнай культуры ў сістэме адукацыі, вопыту і перспектыў выхавання дзяцей і моладзі сродкамі традыцыйнай культуры, рэгіянальных традыцый народнай культуры, і ўсе яны выклікалі шырокую цікавасць і дыскусіі сярод прысутных. Трэба адзначыць і тое, што канферэнцыя дала магчымасць прааналізаваць эвалюцыю самой "Берагіні", вызначыўшы асноўныя этапы і акцэнты ў дзейнасці яе арганізатараў.



Ведаць свае карані, гісторыю, традыцыі роднага краю — ці ж не гэта першы крок на шляху самаўсведамлення чалавека, ягонай "ідэнтыфікацыі" сябе ў грамадстве як беларуса, прадстаўніка пэўнай нацыі. Пакуль што — на ўзроўні "малой радзімы". Адметным з гэтай прычыны стаў "Горад майстроў" — рэгіянальная выстава дэкаратыўна-побытавага мастацтва, у якой прынялі ўдзел майстры не толькі Акцябрскага, але і шэрагу іншых раёнаў Гомельскай вобласці. Вось тут і выявіліся, як на далоні, індывідуальныя схільнасці майстроў, рэгіянальныя асаблівасці развіцця вышыванкі, саломкапляцення, разьбы па дрэве, лозапляцення і г.д.

Помніцца, падчас самых першых крокаў "Берагіні" на Акцябршчыне адной з самых вялікіх складанасцяў была, як ні дзіўна, неабходнасць пераканаць кіраўнікоў дзіцячых калектываў у тым, што асноўная мэта фестывалю не "наяўнасць" і паказчыкі гэтых калектываў, а абуджэнне творчага пачатку, цікавасці да традыцый і культуры роднага краю, не фінальны вынік (хаця яго нельга не браць пад увагу, бо ён — плён дзейнасці), а менавіта стваральны працэс, спрычыняючыся да якога дзеці не толькі спазнаюць родную культуру, пераймаючы яе, а паступова з пераемнікаў самі ператвараюцца ў носьбітаў рэгіянальных традыцый, што дае магчымасць спадзявацца на яе, культуры, адраджэнне і далейшае жыццё. Сёлета відавочным стала неабходнасць пераканаць у гэтым некаторых чыноўнікаў больш высокага рангу. Зразумела, аўтэнтычны фальклор — гэта толькі адзін з накірункаў развіцця айчыннай адукацыі, выхавання і культуры ўвогуле, аднак, як сведчыць практыка, накірунак плённы. Канешне, больш хуткім падаецца шлях, які практычна адразу ж дае красамоўныя паказчыкі, — прынцып пераймання досведу працы лепшых самадзейных калектываў і тыражыраванне яго ў стварэнні шэрагу калектываў-"клонаў". Аднак што далей будзе з гэтымі "штучнымі" калектывамі, сказаць складана: адны выжывуць за кошт ініцыятыўнасці іх кіраўнікоў і ўдзельнікаў, другія разваляцца, трэція будуць існаваць дзякуючы сур'ёзным фінансавым датацыям, чацвёртыя ператворацца ў "мёртвыя душы", неабходныя для справаздач і статыстыкі, пятыя... Досвед працы Акцябрскага раёна паказвае, што больш рацыянальнай і дзейснай праца аказваецца тады, калі сілы скіроўваюцца на стварэнне не саміх калектываў, а спрыяльных умоў для іх існавання. Тады калектывы ўзнікаюць натуральна, як кажуць, без прымусу. Ды і мясцовыя, рэгіянальныя спеўна-музычныя традыцыі заўсёды хутчэй знойдуць водгук у сэрцах і выканаўцаў, і гледачоў-слухачоў, чым уніфікаваныя эстрадныя "нумары", размножаныя па самадзейных калектывах краіны.

Цудоўна, што падчас "круглага стала" па пытаннях аднаўлення і пераемнасці народных традыцый і Міністэрствам культуры, і Гомельскім абласным навукова-метадычным цэнтрам была адзначана скаардынаванасць дзейнасці культурна-адукацыйных устаноў раёна, незалежна ад іх падпарадкавання, важнасць і важкасць той комплекснай працы, якая вядзецца і аналагаў якой нідзе больш у рэспубліцы пакуль што няма. Гэта — супердосвед, якім проста неабходна дзяліцца, а таму самым натуральным будзе стварэнне на базе Акцябрскага раёна абласной лабараторыі, якая і стане базай, скіраванай на перадачу і распаўсюджванне вопыту аднаўлення і пераемнасці рэгіянальнай традыцыйнай культуры.

Дзякуючы чаму рудабельская "Берагіня" ўсур'ёз цікавіць практыкаў і тэарэтыкаў фальклорнага мастацтва і дазваляе весці размовы без "скідак" на правінцыйнасць і мястэчковасць? Магчыма таму, што на гэтую мястэчковасць найперш не пакутуюць самі арганізатары фестывалю. Хто-хто, а яны дакладна ўсведамляюць самі і з поспехам даводзяць нам, што менавіта рэгіянальная культура з'яўляецца галоўным складнікам культуры нацыянальнай. А магчыма таму, што сёння, і гэта можна гаварыць з упэўненасцю, фестываль перарос уласную рэгіянальнасць і выйшаў на якасна новы ўзровень.

**Таццяна КОМАНАВА**

## Філасофія на службе ісціне

**Пабачыў свет першы том універсальнай энцыклапедыі філасофіі, што ўпершыню выдаецца ў гісторыі польскай культуры. Аўтарскі калектыў выдання ў асноўным складаюць прафесары і дактаранты факультэта філасофіі Люблінскага каталіцкага універсітэта, слыннага ў свеце праз Lublin School of Philosopgi. Апякуецца праектам Польскае Таварыства Тамаша з Аквіна. Да ўдзелу запрошаны замежныя мысляры рэалістычнага накірунку, зарыентаваныя на класічную філасофскую спадчыну (тапаграфія аўтараў — Іспанія, Італія, Францыя, ЗША, Расія, Беларусь, Украіна, Эстонія, Славакія і інш.). Узначальвае аўтарскі калектыў выбітны польскі і сусветны мысляр Мечыслаў Альберт Кромпец, творца Люблінскай філасофскай школы.**

**У прадмове да першага тома аўтары пішуць: "Сярод розных тыпаў энцыклапедый незбывальную ролю адыгрываюць энцыклапедыі філасофскія. Філасофія, што пранікае такія істотныя сферы культуры, як пазнанне, практычную дзейнасць, творчасць, ёсць для кожнага народа логасам (розумам), які дазваляе адкрыць вышэйшы, чым толькі будзённы, сэнс жыцця і дзейнасці (...) Ініцыятыва апрацавання і выдання шматтомавай Усеагульнай Энцыклапедыі Філасофіі паходзіць з асяроддзя, якое ў найцяжэйшыя для польскай філасофіі і гуманістыкі часы апошняга пяцідзесяціігоддзя развівала, абараняла і захоўвала незалежнае філасофскае пазнанне, стаючы такім чынам на стражы польскай культуры. Калектыў (...) трактуе гэтае заданне як паслугу мыслення і службу ісціне".**

**Энцыклапедыя заклікана прадставіць падставовыя філасофскія праблемы, з асаблівым акцэнтам на "экзістэнцыяльна важных метафізічных пытаннях", праблематыцы чалавека і культуры, з улікам гісторыі філасофскай думкі. Адметнасць гэтай энцыклапедыі — прадметная (а не мэтапрадметная) мова выкладу, што азначае скіраванасць увагі не на філасофскія тэорыі самі па сабе (сярод якіх 99 адсоткаў засяроджаны на адцягненай ад рэчаіснасці рэфлексіі), але на рэальнае вырашэнне філасофскай праблематыкі праз пошук вызначальных прычын той ці іншай быційнай з'явы, у тым ліку і мыслення. Такім чынам, выданне мае рэалізоўвацца паводле класічнай арыстоцелеўска-тамістычнай парадыгмы, і з тае прычыны арыентуецца на "здаровы чорны хлеб" ісціны ў процівагу постмадэрністычнай хваробе рэлятывізму.**

**Структура энцыклапедыі ўключае артыкулы праблемныя (найбольш значныя паводле зместу), аглядныя (эвалюцыя філасофскіх накірункаў і праблематыкі) і біяграфічныя (персаналіі тых, хто ўвайшоў у гісторыю філасофскай культуры як яе адметны творца).**

**Цэнтральныя артыкулы першага тома — "Антрапалогія", "Арыстоцель", "Аўгусцін", "Бог", "Быт" (існае).**

**Энцыклапедыя запланавана на 8 тамоў — адзін том штогод. Кожны том мае змяшчаць каля 500 артыкулаў прыблізна на 800 старонках фармату А4.**

**Юрась ЗАЛОСКА**

## Музей замест кінатэатра

**У выставачным комплексе "На ростанях", што на сталічным праспекце Скарыны, 47, праходзіць дэманстрацыя варыянтаў праекта рэканструкцыі кінатэатра "Беларусь", дзе мае размясціцца Музей сучаснага мастацтва.**

**Паводле праекта архітэктара Леанарда Маскалевіча, колішні кінатэатр будзе не пазнаць, на гэтым месцы з'явіцца зусім іншы, не падобны да цяперашняга будынак. Пры гэтым "Беларусь" зносіць не збіраюцца, яна проста схаваецца ў музейнай аграмадзіне. Рэканструкцыя ператворыць будынак на Юбілейным пляцы Мінска з двухпавярховага ў трохпавярховы, а ягоныя плошчы павялічацца ў 7 разоў. Вакол музея, які мусіць стаць шматфункцыянальным культурна-мастацкім цэнтрам, дзе будуць прадстаўлены амаль усе віды мастацтва, раскінецца сад скульптур. Дарэчы, менавіта сюды перавязуць вядомы "Габелен стагоддзя" Аляксандра Кішчанкі.**

**Але гэта ўсё перспектыва. Калі ў 1997 годзе Музей сучаснага мастацтва ствараўся, завяршэнне рэканструкцыі "Беларусі" планавалася на 2003 год. Але на сёння яшчэ вядуцца праектныя работы, і ніхто зараз не ведае, дакуль яшчэ музею туліцца на Скарыны, 47.**

**К. П.**

ПАЭЗІЯ

# "Праляцець па вясёлцы..."

*Таццяне Сівец — амаль дзевятнаццаць. Самы час для ўзнёслых мар, летуценняў, пошуку сябе ў жыцці, у паэтычным слове. Карэнная мінчанка, — яна не губляе веру ў росквіт і блізкі зорны час мовы Купалы, Коласа, Багдановіча... А таму і вершы піша па-беларуску, друкуецца ў перыёдыцы, "абжывае" па меры магчымасці радыёэфір, з сумам зазначаючы: "Рэдка пачуеш сёння на вуліцы родную мову".*

*Юная паэтка — студэнтка першага курса факультэта беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя М. Танка. Наіў і акрыленасць пачуцця, вобразная назіральнасць і канкрэтыка ў абгрунтаванні жыццёвых з'яў, калізій, — усё гэта ў даволі аб'ёмнай нізцы вершаў, дасланых Таццянай у выдавецтва "Мастацкая літаратура". Адчуваецца, што яе планіда — у пазнанні і сцвярджэнні самой сябе, у разгадцы штодзённых зямных таямніц. Вось чаму і "Думка нястрымнаю птушкаю рвецца", асвойваючы абсягі душы, Сусвету. "Не пашкадую ні крылаў, ні сэрца!.. Мне б даляцець... Праляцець па вясёлцы!..", — імпульсіўна зазначае ў адным са сваіх твораў паэтка. І ў акрыленасць яе парыванняў хочацца верыць...*

**Кастусь ЖУК,**
**рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура"**

### Таццяна СІВЕЦ



### Жоўты леў

***Жоўты леў***
***Прыляцеў да мяне з вясны.***
***У імгле***
***Млечным Шляхам спусціўся ў сны.***

***Ён ступаў***
***Па карнізах начных дамоў.***
***І не ўпаў,***
***Бо не ведаў зямных умоў.***

***Пранясе***
***Леў мяне над маёй бядой.***
***Па расе***
***Пойдзе велічнаю хадой.***

***Азірнецца —***
***І позірк яго мастом***
***Застанецца...***
***Мой леў...***
***Ён хто?***

### Калодзеж вякоў

***Я патанаю ў міражах***
***Даўно забытых мар.***
***У небе бачу толькі жах***
***Праз акуляры хмар.***
***У рытм спалоханых радкоў***
***Патраплю я наўрад.***
***Хачу з калодзежа вякоў***
***Убачыць зорак рад!***

### Трыялет

***Як гронка растаптаных арабін —***
***На небе снежным сонца дагарала.***
***І ў шэрані самотнай патанала,***
***Як гронка растаптаных арабін.***

***Мне снег шаптаў —***
***яму не давярала, —***
***І ў неба ўжо шукаю я драбін...***
***Як гронка растаптаных арабін —***
***На небе снежным сонца дагарала.***

### У ноч на Купалу

***Зоркі, нібыта русалчыны вочы,***
***Ззяюць над цьмянай купальскаю ноччу.***
***Дрэвы галінамі ў неба ўзняліся,***
***Быццам вядзьмарчыны***
***пасмы ўзвіліся.***

***Кветка зіхотка з'явіцца — згасне,***
***Бы летуценне аб долечцы шчаснай.***
***Зёлкі збіраю ад ночы да рання...***
***Полымя стоміцца —***
***прыйдзе світанне.***

●

***Чырвоным лёдам з келіху нябёс***
***Упала сонца на пагорак росны.***
***Зардзеўся ад яго пагляду плёс***
***Забранзавелі ў асалодзе сосны.***

***Пажоўклыя аблокі паплылі***
***Да небакраю млявай чародою,***
***Дзе да пакутлівых вачэй зямлі***
***Прыходзіць сон няспешнаю хадою.***

***Праз шчыліну нясмела ноч зірне,***
***Астудзіць подыхам халодным скроні.***
***З апошняй сілай сонца палыхне —***
***І запалаюць зорныя паходні.***

### Хор у царкве

***Апладысменты.***
***Ціўшыня.***
***Узняты рукі, нібы крылы.***
***Ні гука.***
***Быццам бы застыла***
***Царквы святая вышыня.***
***мгненне вечнасцю маўчала...***
***І раптам з вышыні вышынь,***
***А, можа, з нашае душы***
***"Хваліце Бога!" — загучала.***

●

***Ціха... Пуста...***
***Свет зрабіўся***
***Хісткай кладкаю праз морак.***
***Поўняй Божы твар адбіўся.***
***І да сну схіляе змора.***
***Атуляе ночы хуста***
***Марай светлай напрадвесні.***
***Крокі?.. Хто там?***
***Ціха... Пуста...***
***Дрэмле вецер каля весніц.***

### Праляцець па вясёлцы...

***Думка нястрымнаю***
***птушкаю рвецца,***
***Ногі ступаюць, нібыта па сонцы...***
***Не пашкадую ні крылаў, ні сэрца!..***
***Мне б даляцець...***
***Праляцець па вясёлцы!..***

●

***Пакуль твая рука***
***цалуе стромкі клавіш,***
***Ты марыш пра снягі пялёсткавых***
***завей.***
***І тое, што здабыў, і тое,***
***што спаткаеш, —***
***Гатовы ты аддаць***
***за погляд з-пад павей.***

***Але свабоды сам сябе ізноў пазбавіш —***
***На сэрцы палыны і мёрзлая жарства.***
***Пакуль твая рука***
***цалуе стромкі клавіш,***
***Я з келіха надзей п'ю слодыч***
***хараства.***

---

### Алесь МАКРАЦОЎ

### Сродак ад чалавека

Вось яно і здарылася...

Здарылася ў страшным тым годзе...

На палі, на лугі, на лясы — на вакольную прыроду, абгрызеную людзьмі, — праліўся чарнобыльскі дождж.

Нехта апырскаў-такі з нябеснае палівачкі расліннасць, жывёл і зямлю радыенуклідным растворам.

Доўгадзейнічаючай атрутай.

Сродкам ад чалавека...

### Напамін

Цемра. Сутонне. Світанне.

Раніца пазнання...

Асветленае розумам наваколле — сваёй упарадкаванасцю — паказвае нам на законы прыроды.

Падказвае, што законы гэтыя створаны не людзьмі.

Нагадвае пра існаванне розуму, мацнейшага за чалавечы...

Напамінае аб існым Творцы.

### Парастак духу

Гэты свет для мяне тая ж глеба...

Патрапіў у яе падобна насенню, істота мая набухла памерам. Укарэнілася душой. Дала парастак.

Парастак духу...

Паміж мной і паверхняй гэтага свету — слой суглінiстага быцця. Камякі і камлыгі выпрабаванняў. Цемра...

Рассоўваю згубную цемру.

Уздымаюся духам над целам.

Кіруюся ўверх, да святла.

Прарастаю да іншага свету.

Альбо прарасту, альбо згіну...

### Схіл зямнога быцця

Манах...

З непрыманнем і жалем глядзіць ён на свецкую мітусню. На бездапаможнасць душ, падмятых уласным целам.

Глядзіць зверху.

Вачмі духа...

Свецкі чалавек глядзіць на манаства з пункта задавальнення цялесных патрэб. Як на расцягнутае ў часе самазабойства.

Глядзіць знізу

Вачмі плоці...

Пад нагамі ў абодвух — схіл зямнога быцця, па якім уздымаюцца ў неба і апускаюцца ў апраметную бездань...

### Зміцер ВІШНЁЎ

### Лапкі імператарскіх палацаў

***партвейн***
***хвалі Нявы***
***усё гэта нагадвае глінтвейн***
***цёплага горла невад***
***я раскладаю горад вейкамі***
***мёртвымі голкамі осіфа***
***адчуваю горад рыбнымі пальцамі***
***кальцыем вокнаў***
***дыхае п'яны сіні сіфон***
***фон — даміно трушчаных дамоў***
***праз думкі***
***праз белую муку***
***праплывае фестывальны кубрык***
***галава труна перакуленая***
***у сэнсе бяссоннага кубіка***
***няголенай шчакой цалую паветра***
***гетэру ў вельветавых гетрах***
***школьніцы з кантрабасамі***
***штосьці абстрактнае***
***заключаю мастацкі кантракт***
***з горадам дзе жыве трап***
***майго твайго паласатага сэрца***

24 красавіка 2001
Санкт-Пецярбург

●

***слупы на дарогах —***
***гэта срэбраныя відэльцы***
***відарыс шашы — гэта шахматная гульня***
***проста на сэрцы чамусьці туга***
***насоўваецца туман***
***пацалунак разбурае сум як буран***
***на душы — рана***

●

Вакол паэтаў, як прусакоў. І кожны кідаецца словамі нібыта какосамі. Я — не паэт! Я — машыніст радка! Я ганяю вагоны па рэйках і катках! У маіх скронях сядзяць мазгоў павукі. Я выцягваю сэнсавы кій! І таму штораніцу ў маім дэпо няма ціўшыні! Там шкандыбаюць не вершы — цягнікі!

●

***твая англійская мова патрабуе кавы***
***думкі блукаюць па дрэвах як спадар Кафка***
***марозіва сёння нядрэннае***
***з прысмакам вачэй***
***мая галава напалову ў Францыі***
***побач з табой***
***я перастукваюся пры дапамозе рацыі***
***мае вершы — радыяцыя***

●

***я зрабіў карціну вечнага***
***думкі выспявалі плафонам***
***акведук бурбуліўся венамі***
***ты ляжала на канапе неба***

ІМЁНЫ І ТВОРЫ

# Зацвітала маладая пара паэзіі

## ЛЁС І ТВОРЧАСЦЬ Алеся ПРУДНІКАВА

Паэту Алесю Прудніkаву лёс і суровы час адмералі вельмі кароткі век — ён загінуў у 31 год далёка ад роднай Беларусі. Другая сусветная вайна застала яго ў Карэліі. З першых дзён ліхалецця ён пайшоў у апалчэнне, быў разведчыкам у знішчальным батальёне. Падчас выканання баявога задання каля вёскі Утукі Пятроўскага (цяпер Кандапожскага) раёна воін-паэт трапіў у палон, а 5 жніўня 1941 г. пасля садысцкіх, нечалавечых здзекаў кат зацягнуў на яго шыі смяротную пятлю.

Алесь Прудніkаў — стрыечны брат беларускага пісьменніка Паўла Прудніkава, які летась адышоў на вечны спачын. Пра свайго сваяка і літаратурнага пабраціма Павел Іванавіч гаварыў як "пра шчырага паэта і чалавека, з якім... амаль чвэрць веку дзяліў і кавалак хлеба, і цыгарку, і радасць, і гора..." Разам яны ўваходзілі ў самастойнае жыццё, у літаратуру, праз доўгія гады падтрымлівалі добрыя сяброўскія стасункі. У апошнім лісце з радзімы славутай "Калявалы" ў маі 1941 г. А. Прудніkаў паведаміў сваяку-аднафамільцу, што падрыхтаваў новы зборнік вершаў, напісаў некалькі апавяданняў і нарысаў.

Родам Алесь (Аляксандр Трафімавіч) Прудніkаў з вёскі Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Нарадзіўся ён 14 красавіка 1910 г. у сялянскай сям'і. З трох гадоў хлопчык гадаваўся без бацькі, які загінуў на першай сусветнай вайне. Яго разам са старэйшым братам і сястрой Марысяй выхоўваў айчым. Пачатковую школу ён скончыў у роднай вёсцы. Працягваў вучобу ў Мілаславіцкай сямігодцы. У школьную пару Алесь пачаў пісаць вершы. Яго паэтычныя схільнасці заўважыў і заахвочваў малады настаўнік і паэт Янка Бобрык, які на той час выкладаў у сямігодцы мову і літаратуру. Пакінуўшы сцены школы (1929), А. Прудніkаў год вучыўся ў Магілёўскім белпедтэхнікуме.

Абставіны змусілі пайсці зарабляць на хлеб. У 1930 г. ён працаваў на будаўніцтве чыгункі Асіповічы—Магілёў—Рослаў, пасля завіхаўся на будоўлях Мінска. І далей кругаварот часу ўцягваў паэта ў актыўнае і надзвычай інтэнсіўнае жыццё. А. Прудніkаў працаваў на рэспубліканскай кніжнай базе, потым заняў пасаду стыльрэдактара ў Дзяржаўным выдавецтве Беларусі, а крыху пазней ён стаў рэпарцёрам БЕЛТА. У 1932—1933 гадах паэт вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута.

Аднак грымнула бяда. Па надуманых і беспадстаўных абвінавачваннях у сакавіку 1933 г. маладога пісьменніка арыштавалі і кінулі ў сталінскія засценкі. З-за астрожных кратаў яго ўсё ж вызвалілі, але здарылася гэта толькі праз восем месяцаў допытаў і вялікіх душэўных пакутаў (быў рэабілітаваны ў 1956 г.). Затым А. Прудніkаў апынуўся ў армейскіх шэрагах, з годнасцю нёс вайсковую службу. А яшчэ не пакідаў пісаць вершы, якія змяшчаў у чырвонаармейскім друку. 1935 год прынёс "дэмбель" — і перад паэтам паўстала пытанне, куды яму падацца. Пэўны час ён працаваў у рэдакцыі клімавіцкай райгазеты "Камуна", кіраваў дзейнасцю літаб'яднання. Няўрымслівы малады пісьменнік прагнуў вучыцца далей, таму ў 1936 г. выправіўся ў горад на Няве і паступіў на літфак Ленінградскага педагагічнага інстытута. Скончыўшы вучобу, паехаў настаўнічаць на Поўнач. Тут, у Карэліі, ён рупіўся на асветніцкай дзялянцы не адзін год. Быў завучам сярэдняй школы, інспектарам райана. І зноў паглыбляў свае веды і адукацыю, сумяшчаючы працоўную дзейнасць і вучобу на філалагічным факультэце Карэльскага універсітэта. Гэта быў, нягледзячы на перажытыя нягоды, непапраўны рамантык, вельмі апантаны і мэтаімкнёны хлопец, які не шукаў лёгкіх шляхоў у жыцці, гартаваў свой характар, няспынна дбаў аб глыбокім духоўным развіцці. Але найперш у яго асобе жыў высока ўзнесены і палымяна-бурлівы творчы дух.

З першым вершам "Асінбуд" А. Прудніkаў выступіў на старонках "Чырвонай змены" ў 1930 г. Апрача гэтай газеты, ён друкаваўся ў "Піянеры Беларусі", "Беларускай вёсцы", "Чырвонаармейскай праўдзе", часопісах "Маладняк", "Узвышша", "Полымя", "Чырвоная Беларусь", "Заклік". У 1932 г. асобнай кніжкай выдаў паэму "Зямныя зоры". Аднак цалкам літаратурная спадчына паэта не сабрана і не спарадкавана: многія вершы і паэмы раскіданы па даваеннай перыёдыцы, іншыя яго творы захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Праўда, асобныя вершы А. Прудніkава былі змешчаны ў зборніку "Крывёю сэрца" (1967).

Творчае станаўленне паэта ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў праходзіла няроўна і не без пэўных выдаткаў. Малады аўтар, як і многія яго аднагодкі, трапіў пад уздзеянне ідэйна-палітычных установак таго часу, ужо замацаваных у літаратуры канонаў і клішыраваных форм вершатворчасці. Савецкая ідэалогія прышчапляла пісьменнікам вульгарна-прагматычныя і утылітарныя погляды на мастацкую творчасць, якая, маўляў, павінна спрыяць працоўнаму ўздыму грамадства, яго палітычным інтарэсам і першачарговым задачам, звязаным з умацаваннем рабоча-сялянскай улады і класавай свядомасці. Вось і А. Прудніkаў шчодра аддаваў даніну свайму часу — у гучных дэкламацыях і публіцыстычных маналогах ён славіў чалавека працы, пабудову сацыялістычнай явы, ленінскую справу, усеагульны стваральны энтузіязм народа. Усё гэта знайшло яскравае выяўленне ў вершах "Вугляkоп", "Абоз", "Трактару дайце дарогу", "У бой за торф", "Качагар Драбушынскі", "Селікатны", "На штурм другой пяцігодкі", "Ідзе ўдарная ўборка", "Ленін жыве" і інш. Складаў паэт радкі з верай у заўтрашні дзень савецкай краіны, яго радасная рыторыка, безаблічныя палымяныя лозунгі і воклічы — гэта стыль пісьма, народжаны ў свядомасці чалавека, шчыра захопленага і натхнёнага грамадскімі з'явамі, фактамі, падзеямі. У сваёй маштабнасці вобразаў і прамоўніцкіх рытмах — што бачыцца вельмі выразна — малады беларускі паэт раўняўся на Уладзіміра Маякоўскага, тагачаснага куміра творчай моладзі. Ён спяваў "песні жалезныя" і звонкія, наэлектрызаваныя энергетыкай эпохі:

***Часы залатыя!***
***Вось гэта —***
***Гісторыя:***
***Залітая —***
***сонцам,***
***работай***
***напружанай...***

**"Постаць заўтрага"**

Тады, у 30-я гг., так пісалі многія. "Мне трэба, каб слова падносіла цэглу..." — так выказваў сваё крэда малады П. Броўка. "Я падношу цэглу..." — вельмі красамоўная назва верша А. Прудніkава, якая можа пасведчыць пра культ працы ў даваенным грамадстве. Зрэшты, працоўную тэматыку творчасці паэта прадвызначыла і тая акалічнасць, што ён працаваў чорнарабочым і будаўніком, яму былі блізкія і зразумелыя радасць чалавечай супольнасці, агульных клопатаў і памкненняў. Сярод твораў, прысвечаных людзям-працаўнікам, вылучаецца верш "Малады плытагон". Тут звяртае ўвагу вастрыня мастацкага светаўспрымання, метафарычная вобразнасць, маляўнічая экспрэсіўнасць асобных паэтычных радкоў: "...Месяц-ліхтар падвешаны // Хістаўся адзін над палямі"; "Галасіла піла шчанём"; "Рака стагнала бабулькаю..."; "Над вадою, // і каля вады // паразвешваліся туманы" і інш. У вершы, дзе выразна выяўляецца аўтарскае пачуццё, створаны яркі малюнак лесасплаву на Дняпры, з душэўнай пранікнёнасцю апаэтызаваны гэты шлях па воднай стыхіі.

Адданасць ідэалам новага жыцця была абумоўлена самой маладосцю аўтара, які імкнуўся выявіць напал часу і сваю непасрэдную далучанасць да агульназначных грамадскіх спраў. Акрылялі паэта патрыятычнае пачуццё і ўнутраная разнасцежанасць душы, якая абуджала песенны настрой і клікала на шырокі духоўны прастор:

***Вось затым я на поплавах сініх,***
***брыду па мурожных слядах,***
***каб у песні бадзёрай краіне***
***юнацкую шчырасць аддаць!***

**"Вось я на поплавах сініх..."**

Тая краіна сапраўды была вонкава бадзёрай і перапоўненай радасным галавакружэннем, драматызм жыцця заставаўся па-за афіцыйнай сцэнай.

Аднак і ў тыя неспрыяльныя для творчасці часы знаходзілася месца для ўвасаблення асабістых, па-сапраўднаму адухоўленых пачуццяў. У вершы "Ноч глухая..." А. Прудніkаў з інтымнай выверанасцю голасу сказаў пра развітанне са сваім дарагім вясковым светам, пра тое, як у юнацкай душы "зацвітае... маладая пара паэзіі":

***Я стаю.***
***Доўга думаю я...***
***І не верыцца нават самому,***
***Што мяне ўзгадавала зямля***
***Каля гумен, прапахлых саломай.***

***Дзесьці крокі рыфмуе цягнік...***
***Гул губляецца***
***У шпаркім разбезе...***

Вельмі лірычныя і вобразныя ў выяўленні чуйнай, тонкай душэўнай сувязі са светам такія паэтавы вершы, як "Звіняць абшары", "Зацвітаюць бялявыя вербы...", а таксама запеў да паэмы "Зямныя зоры", вершаваны цыкл "Круг дарог", які можна назваць невялікай паэмай. Асабліва западае ў памяць адметнасць аўтарскіх вобразаў, разняволеная паэтыка слоўнага жывапісу: "Манеўруюць качкі ў надхмар'і // Над празрыстым люстрам вадапою" ("Звіняць абшары"); "Вочы зялёныя пражэктароў // Мацаюць рэек халодную сталь"; "Абстрыжаны восенню лес // завесіў абрысы паселішч, // і ластаўкі слоў маіх селі // на рукі алешын-калек" ("Круг дарог"). А. Прудніkаў паказаў добрае майстэрства метафорыкі.

Як бачым, у асобе А.Прудніkава вылучаюцца дзве іпастасі — паэта-публіцыста і лірыка. Пра гэтыя два бакі яго творчай натуры могуць яшчэ засведчыць розныя па сваіх інтанацыйных рэгістрах вершы "Абрабаваны Стронг" і "На вакзале".

Паэт усведамляў, што сапраўдная толькі "лірыка дзіўная". Ён думаў-спадзяваўся, што "выракся ўсякае песні нядобрае" і марыў, каб у яго "песнях... лебядзіных" ніколі не пагаслі матчына слова і радзіма, хараство і маладосць.

Творы А. Прудніkава друкуюцца ніжэй паводле даваенных перыядычных выданняў, а таксама рукапісных аўтографаў і машынапісу, якія захоўваюцца ў БДАМЛІМ (фонд 55).

**Алесь БЕЛЬСКІ**

Алесь ПРУДНІКАЎ

## Памяці Паўлюка Труса

Не засні, разбудзі мяне рана.
О, мая дарагая матуля!

**Паўлюк ТРУС**

***Не, не пабудзіць маці дарагая!..***
***Як сноп зарніцы неба азарыць,***
***Яна маўкліва выйдзе за курганы,***
***Дзе дзве сцяжынкі крочаць з-за гары.***
***Адна супыніцца ў тумане сінім,***
***Вачамі слёзнымі угледзіцца у даль,***
***Ці не пакажацца там постаць сына?..***
***Толькі сына ўсё чамусьці не відаць...***

***І пасыплюцца слёзы матчыны,***
***Нібы перлы рос залацістыя...***
***Ветры буйныя раскудлачацца,***
***Замятуць прастор-поле чыстае.***
***Бо пагасла зара юнай цвецені,***
***Бо замоўклі навек струны звонкія.***
***Асыпаюцца іх букецікі***
***На мурожныя травы золкія.***

***Больш не пабудзіць маці дарагая...***
***Як сноп зарніцы неба азарыць,***
***Яна маўкліва выйдзе за курганы,***
***Дзе дзве сцяжынкі крочаць з-за гары.***
***Адна сутуліцца ў тумане сінім,***
***Вачамі слёзнымі угледзіцца у даль...***
***Няма, няма там дарагога сына,***
***Ён больш не вернецца пад саламяны дах...***

●

***Зацвітуць бялявыя вербы,***
***табуны мітусяцца хрушчоў...***
***Я ўбачыў клён — станам нязграбным***
***прыгарнуўся да ліпіных шчок.***

***Як квітнела ў тумане свяча —***
***залаціў месяц нечую голень;***
***Можа, клёна ды ліпу вянчаў,***
***можа, дзеўчына спала на полі.***

***Толькі я, калі зорка пагасла,***
***заблудзіўся туды падарожнік,***
***Дык пад лісцем вясенняга ясеня***
***паўстала радзімая пожня.***

***Ой, калі усеецца дымам***
***ды пялёскі пасыпле на жвір,***
***а калоссі зярняты падымуць***
***чалавечай вышэй галавы —***

***прысланюся пад шатамі ясеня...***
***Струны кранучца на дзіва.***
***І радзіма тады не пагасне***
***у песнях маіх лебядзіных.***

●

***Усё так спакойна, усё адмірае.***
***Заўвагі, развагі на ўлонне спадуць.***
***І людзі запішуць былое над Краем***
***З няведамай шчырасцю дум...***
***Нашчадкі, як некалі продак іх волат,***
***Узложаць вячысты, цярновы вянок***
***На кнігу брыльянтаў чароўнага слова,***
***Даруючы памяць вякоў —***
***маладосць.***

## На вакзале

***Цішы нерухомае тут не налучыш,***
***хвіліны падлічаны кожным.***
***Чаканнем ахоплен балючым***
***ў натоўпе людскім падарожнік.***

***Жаданне ў душы кожны носіць,***
***гадзінамі сочыць заўзята,***
***Як стрэлкі паўзуць па дарозе***
***люстровага дна цыферблата.***

***А дзесьці даюцца сігналы,***
***Як лебедзі, мчацца вагоны,***
***Душа у трывожнай навале***
***Затоіць чуццё дарагое...***

***Пацякуць на перон пасажыры***
***з пакункамі дзеля пасадкі.***
***Навокала вочы чужыя***
***Шкляную рассейваюць вадкасць.***

***Рассядуцца шумна знянацку,***
***Купэ не пакінуць парожнім...***
***З нас кожны ў разбезе юнацкім***
***маленькіх шляхоў падарожнік.***

***Вакзал жа шуміць і гамоніць,***
***ён вечна хвалюецца нівай...***
***Так наша жыццё дарагое***
***хвалюецца новым прылівам.***

# Нэлі ТУЛУПАВА



30 ліпеня пасля цяжкай хваробы пайшла з жыцця вядомая паэтэса, празаік, перакладчыца Тулупава (Лісоўская) Нэлі Іванаўна.

Шлях яе пачаўся на Гомельшчыне, у маляўнічай вёсцы Капань Рэчыцкага раёна. Нарадзілася Н. Тулупава 1 лютага 1938 года ў сям'і настаўніка, разам з бацькамі многа ездзіла па Беларусі. У 1955 годзе скончыла Гомельскае медвучылішча, працавала ў медыцынскіх установах Віцебшчыны, пасля была дыктарам Віцебскага абласнога тэлебачання, пазней пераехала ў Горкі Магілёўскай вобласці, дзе працавала інструктарам раённага Дома культуры, медсястрой, загадчыцай аддзела райкома камсамола, рэдактарам газеты "Советский студент" Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Пасля заканчэння ў 1969 годзе факультэта журналістыкі БДУ пераехала ў Мінск. Уладкавалася загадчыцай рэпертуарнага аддзела Белдзяржфілармоніі, шмат гадоў працавала старшым рэдактарам рэдакцыі літаратуры народаў СССР выдавецтва "Мастацкая літаратура". У апошнія гады талент свой аддавала часопісу "Вожык".

Пісаць Н. Тулупава пачала рана, яшчэ ў школьныя гады. Яе хвалявала ўсё: навакольнае жыццё, чалавек з яго няўрымслівасцю і прагай незалежнасці, стан душы на пакручастых шляхах лёсу. Асобнае месца ў яе творчасці займае чарнобыльская бяда, якая чорным крылом ахінула "малую радзіму" паэткі. З-пад пяра Нэлі Іванаўны выйшлі вершы "Прызнанне", "Ліст да маці", "Дабрыня", "Салаўі Хатыні", што зрабіліся песнямі, пабачылі свет паэтычныя зборнікі "Станцыя надзей", "Дабрадзея", "Босая цішыня", "Сонца ў хату", "Скажыце ўсім", прасякнутыя песеннасцю, цеплынёй аўтарскага светаадчування.

Светлая памяць пра Нэлі Іванаўну Тулупаву захаваецца ў сэрцах сяброў, калег, супрацоўнікаў, усіх, хто яе ведаў.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў з глыбокім жалем паведамляе аб смерці пісьменніцы ТУЛУПАВАЙ (Лісоўскай) Нэлі Іванаўны і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.**

**Рэдакцыя тыднёвіка "Літаратура і мастацтва" смуткуе з прычыны смерці паэтэсы ТУЛУПАВАЙ (Лісоўскай) Нэлі Іванаўны і выказвае глыбокае спачуванне яе родным і блізкім.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю КАСКО з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці брата.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў з глыбокім жалем паведамляе пра смерць удавы пісьменніка Міколы Хведаровіча Сары Майсееўны ФРЫД і выказвае шчырае спачуванне дзецям, родным, блізкім нябожчыцы.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Янку СІПАКОВУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці сястры.**

ваяваць за інтарэсы суседняй імперыі. Таму вайны ў Крыме не прадбачыцца.

Падарожжа па горным Крыме пачынаецца з пагранічнага кардону. За ўезд на тэрыторыю запаведніка трэба заплаціць пятнаццаць грыўнаў з чалавека. А яшчэ пару гадоў назад сюды маглі заехаць толькі ўрадавыя машыны. Горная дарога вузкая і звілістая, шафёр зухаваты, дзеці мае сядзяць, учапіўшыся абедзвюма рукамі ў крэслы мікрааўтобуса. Раптам насустрач — такі самы белы аўтобус. Раз'язджаліся машыны хвілін дзесяць, па міліметры працісваючы металёвыя целы паралельна адно з адным між скалою і прорвай. Нарэшце праязджаем далей.... І ледзь не збіваем кінакамеру, што стаіць сярод дарогі. Барадаты дзядзька махае рукамі і лаецца: "Чаму паехалі без майго сігналу?!" Ззаду паказваецца той аўтобус, што размінуўся нядаўна з намі. Яго, відаць, і чакалі кіношнікі. Наш экскурсавод тлумачыць — украінскае тэлебачанне здымае перадачу "Вецер вандраванняў".

Казьмадзям'янаўскі манастыр узнік ля крыніцы святой вады. Яе называюць "срэбнай" за высокае ўтрыманне высакароднага металу і празрыстасць. Крыніцу срэбнай вады знайшлі святыя бессярэбранікі, лекары Казьма і Даміан. Некалі паломнікі мелі магчымасць прымаць там ванны — насупраць крыніцы захаваліся цэментовыя ямiны, калісьці поўныя святой вады. Мніх, прыгожы чарнавокі хахол, расказвае прыезджым паломніцам пра манастырскае жыццё, тлумачыць, што бачыцца з бацькамі, ездзіць да іх садзіць бульбу. Дае парады па хрысціянскім ладзе жыцця. Асабліва асуджае чамусь свецкі звычай хаваць нябожчыка пад музыку.

Выгружаемся на высакагорным лузе, паглядзець муфлонаў, што пасуцца на падвор'і лесніка. Гэта самы высока размешчаны дом у Крыме. Зусім побач — галоўная вяршыня Раман-Кош. Трыста метраў за паварот — лецішча прэзідэнта Украіны. Туды нас не пусцяць, пра што нагадваюць невядома нашто нацягнутыя ўздоўж дарогі кавалкі калючага дроту, якія не тое што заяц, і суслік пераскочыць. Калі, вядома, тут водзяцца суслікі. Тут жа, на фоне духмянага лугу, шыльда папярэджвае пра наяўнасць энцэфалітнага кляшча.

Перавал Гурзуфскае сядло — адзінае месца ў Крымскіх гарах, адкуль відаць адразу і Бахчысарай, і мора. Менавіта тут знайшлі рэшткі антычнага храма Дзевы. Сюды Артэміда перанесла Іфігенію, дачку Агамемнана. Іфігенія мусіла стацца ахвярай, каб багі дазволілі караблям грэкаў адплысці на Траянскую вайну. Іфігенія была жрыцай Артэміды і прыносіла ў ахвяру багіні-феміністцы мараходаў, што выпадкова траплялі на гэты бераг.

Над Гурзуфам, на вышыні паўтары тысячы метраў, — Альтанка Вятроў. Калісьці Мікіта Хрушчоў, сузіраючы цудоўную панараму, якая адкрываецца з таго месца, выказаўся — "Добра б тут альтаначку паставіць..." Вядома, паставілі. Каля альтанкі — карставыя варонкі. Дна ў іх не відно — закручваюцца. Але стук каменя, кінутага туды, не сціхае так доўга, што скала пад нагамі здаецца плыткай... Кажуць, усе Крымскія горы знутры ў такіх карставых варонках, напоўненых лёдам і вадой. З іх нараджаюцца горныя рэчкі.

Катаемся на катэры ўздоўж узбярэжжа. Праязджаем Артэк. Вялізныя чырвоныя прамакутнікі — Ленінскі мемарыял, збудаваны ў васьмідзесятых. Задуманы для таго, каб усе тысячы артэкаўцаў можна было выстраіць на ўрачыстую лінейку, па лагерах і атрадах. Гіганцкім мемарыялам карысталіся ўсяго некалькі разоў у асаблівых выпадках, прыкладам, па прыездзе генсека. Пакуль першыя шарэнгі слухалі ўрачыстыя прамовы, піянеры ў апошніх шэрагах, да якіх нічога ад урачыстага мерапрыемства не далятала, трацілі прытомнасць ад спёкі. Сёння мемарыял, збудаваны на месцы споўзняў, развальваецца. Чырвоныя гранітныя глыбы спаўзаюць з месцаў, раскалваюцца. Іх упарта рэстаўрую́ць. Экскурсавод з катэра ледзь не гнеўна заўважае, што на грошы, ляснутыя на мемарыял, можна было збудаваць яшчэ адно такое мястэчка, як Гурзуф.

Артэкаўцы ходзяць ва уніформе. Чырвоных гальштукаў не носяць, але ўсё — ад красовак да куртак — аднолькавае, колеру марской хвалі. Не ўсім патрапляе адзенне па памеры, і "лагернікі" нагадваюць ці то вабаранцаў, ці то сапраўды... лагернікаў. Адрозненне ад былога "Артэка" — не відаць ні мурынаў, ні азіятаў, ні іншых братоў па сацыялістычным лагеры. Сытыя дзеткі "новых" эсэндэўцаў.

Дзень нараджэння Артэка. Пад вечар "мясцовыя" прадаюць запрашальныя білеты. Хто колькі запрошвае... Кошт — ад дзесяці грыўнаў да трыццаці. Хлопчык на рагу Ленінградскай вуліцы спрабуе прадаць нам свой білет за пятнаццаць грыўнаў. Білет у яго толькі адзін, а нас з дзецьмі пяцёра. Хлопчык расказвае, як яны з бабуляй праходзілі па адным білеце, і як усе мы можам прайсці таксама па адным. На верандзе суседняга дома, відаць, гэтая бабуля і сядзіць, папівае гарбату і сочыць за ўнукавым гандлем. Але збіраецца дождж, і ніхто ў Артэк не імкнецца. Нават не спакушае імя Сафіі Ратару, якая нібыта выступае на гэтых святах штогод.

Скалы Адалары ў перакладзе — Белыя Камяні. На адной са скал, бліжэйшай да берага, сто гадоў таму мясцовая купчыха зладзіла рэстарацыю. Дастаўляць туды наведнікаў мусіла канатная дарога. Рэшткі рэстарацыі відаць дасюль. Апошні раз яна дзейнічала падчас Айчыннай вайны, калі Крым акупавалі немцы. Акупантаў туды і вазілі. Наша суседка, баба Валя, кажа, што ля гэтай скалы трэба ныраць — накідана залатых манетаў.

Ля Артэка — скала Шаляпіна. Вялікі спявак збудаваў там маёнтак... Які потым быў канфіскаваны савецкай уладай. І паехаў Шаляпін, немалады хворы чалавек, за мяжу, наноў зарабляць капітал на сябе... І на некалькі дзесяткаў сваякоў, што выехалі разам з ім, прывыкшых ад яго карміцца.

У мясцовай газеце — паведамленне. Мужыкі пасёлка Паўночны вылавілі невядомую колькасць каністраў са спіртам. Кантрабандысты выкінулі. Частку міліцыянты канфіскавалі. Але і пасля гэтага трое пасялкоўцаў аддалі Богу душу, пераспіртаваўшыся.

Гурзуфскі санаторый "Пушкіна" — для вайсковай эліты. У парку санаторыя стаяць бюсты тым, хто пісаў там вершы — не ў санаторыі, вядома, а ў цудоўным старажытным парку, прыўлашчаным санаторыем. Пушкін, Міцкевіч, Леся Украінка... Бронзавыя, вечныя... Чайкамі абгаджаныя.У мурынскія вусны Пушкіна ўплішчаны недакурак.

Вырашаю нічога тут не пісаць.

Успенскі пячорны манастыр заснаваны ў VIII стагоддзі мніхамі, што ўцяклі з Візантыі ад змагароў з іконамі. На гарах пасецца статак манастырскіх козаў. Паўз манастыр — дарога ў мёртвы горад караімаў Чуфут-Кале. Караімы — нашчадкі легендарных хазараў. Іх атаясамлялі з габрэямі, але самі сябе яны габрэямі не прызнавалі. Ім нават удалося пераканаць у гэтым Кацярыну II. Яны пышна прынялі яе і атрымалі дазвол на вольнае пасяленне па ўсёй імперыі.

І застаўся горад мёртвы...

За маўзалеем Джаныке-ханум, дачкі хана Тахтамыша, рэліктавае фінікавае дрэва... І развешаныя на галінках старажытныя ўсходнія строі ў стылі кіч. Сфатаграфавацца ў іх каштуе пяць грыўнаў. Па шэрым камені маўзалея бегаюць зялёныя пруткія яшчаркі. Быццам караімскія душы.

Дарога тысячагоддзяў... У камені, адпаліраваным хадой дзесяткаў пакаленняў, сляды колаў... Роўчыкі для збірання дажджавой вады... Студня... Мой сынок, які толькі што ледзь плёўся па гарачыні, ажывае і, да майго жаху, перагінаецца над тысячагадовай студняй — плюнуць. Калектыўнае падсвядомае спрацавала.

Караімская малельня — кенаса. Тут прахалода, веранда з каланадай і каменнымі лаўкамі. Садзімся... І чуем, што жанчынам тут сядзець забараняецца, толькі мужчыны пасля службы тут сядзелі і размаўлялі пра палітыку... А побач, у каменнай падземнай турме, сядзелі то рускі дыпламат, то дыпламат Вялікага Княства Літоўскага...

У Бахчысараі нам паказваюць ханскія могілкі. Ханы ляжаць шчыльна адзін ля аднаго. Мусульманскі звычай хаваць нябожчыкаў без дарагіх упрыгожванняў і аздоб захаваў магілы непарушнымі. Да рашоткі маўзалея трэба прывязваць кавалачкі тканіны, адарванай ад свайго адзення — каб здзейсніліся жаданні. Многія, хто тут ляжыць, лічацца святымі. Вось толькі навязаных кавалачкаў адзення не бачна.

У газеце — рэклама вядзьмаркі Вольгі. Захопленыя водгукі кліентаў. Мужык расказвае, як сабраўся быў паміраць, але вядзьмарка павяла яго на могілкі, і там мужык выкапаў з нечае магілы ўласныя трусы — былая жонка і цешча закапалі.

Экскурсаводка прапаноўвае нам наведаць сапраўдную бахчысарайскую кавярню. Колісь іх было трыццаць. Цяпер аднавілі адну — для экзотыкі... "Сапраўдны Усход!" — рэкламуе экскурсаводка.

Вузенькія, як горла кальяна, дворыкі, драўляная лесвіца, другі паверх... Відавочна, нечая небагатая кватэра, адзін пакой ахвяраваны пад "усходні каларыт". Нізкія канапы, магчыма, звычайныя скрыні, накрытыя чырвоным плюшам. На сцяне — дыванок "Умыканне персіянкі". Штампаваныя кітайскія сурвэткі з пазалочанай гумы. Дзве кабеты-гаспадыні завіхаюцца, падаюць кубачкі... Зноў касцюмы татарскіх ханаў. Сфатаграфавацца ў іх — усяго тры грыўні. А на ўзбярэжжы Ялты можна сесці нават на сапраўдны царскі трон у касцюме Кацярыны II.

На рэшткі грошай ідзём з дзецьмі ў рэстарацыю на беразе мора і заказваем па кавалку акулы. Мяса белае, смачнае, у роце растае... Замест костак — храшчы. Называецца чарнаморская акула "катран". Амаль катран — зарытмізаваны і зарыфмаваны бяскосткавы кавалак верша.

Таўры, пра якіх пісаў наш Караткевіч, не зніклі. Гэта былі першыя курортнікі. Яны проста з'ехалі, як з'язджаем мы, да свае халоднай балоцістай зямлі.

Гайдаюся на празрыстых хвалях Чэхаўскай бухты. Побач — нікога. Толькі скалы, мора і чайкі. Здаровыя, марскія, з жоўтымі моцнымі дзюбамі... Мой карабель разбіты. А ўвечары — цягнік ад Сімферопальскага вакзала. Таўры мусяць вяртацца.

На Сімферопальскім вакзале паўсюдна прадаюць лаванду. Букецік запхнуты і ў маю чорную вялізную сумку вытворчасці мінскай фабрыкі "Галантэя", на бездапаможных калёсіках, якую з апошніх сіл цягну па платформе. Сімферопальскія мужыкі наперабой кідаюцца паднесці сумкі, дапамагчы... Дарэмна ўзбадзёрваюся гэткай джэнтльменскай увагай — усе мараць толькі зарабіць грыўну... Нарэшце, адзін, з вядром з дохлымі морквінкамі, амаль не сілком падхоплівае маю сумку і бегма нясе да майго вагона. Гаворыць нешта пра тое, як шкада было на мяне глядзець, і такія жанчыны не павінны цягаць сумкі... А ён усяго за грыўну данясе... Аж да самага купэ... Амаль злы на сваё прыніжэнне, мармыча, што не прадаў сёння ні морквінкі, што дома няма чаго есці, хлеба няма за што купіць... Ні сам, ні жонка не маюць працы. А можа, я пашкадую яго і дам дзве грыўны... Ён такі жаласны і прыніжаны, што я сапраўды даю яму дзве грыўны пад абурэнне нязздзейсненых насільшчыкаў і правадніцы.

На ўсіх станцыях прадаюць піражкі, варaную бульбу, сушаную рыбу, чарэшню і клубніцы... На станцыі, якая мае загадкавую назву "нешта" "імя Шаўчэнкі", купляю самую вялікую рыбіну, якая прадаецца — вэнджанага ляшча. Лешч даўжынёй ледзь не ў маю руку. Пад вечар пах у нашым вагоне неапісальны. Вэнджаная рыба і лаванда аздабляюць наш шлях на Радзіму.

Таўры вярнуліся.









*На здымках: Мёртвы горад Чуфут-Кале;Дом-музей Чэхава ў Гурзуфе, дыванкі працы В. Кніпер-Чэхавай; Чэхаўскі пляж і дом-музей Чэхава; Чуфут-Кале. Дарога тысячагоддзяў; Лівадзія. Сцежка прагулак царскай сям'і.*

# Пачатак беларускага шоу-бізнесу?

Зборка маладой беларускай музыкі “Вольныя танцы: альтэрнатыва ву”, пры некаторых сваіх недахопах, адрозніваецца ад іншых выданняў такога тыпу (“20 хитов из Беларуси”, БелКП-ПРЕСС, “100 городов мира” і г. д.) тым, што мы маем справу з сапраўдным інтэлектуальным прадуктам, які прапануе слухачам БМА-груп.

Пра склад новага фанаграфічнага выдання, яго недахопы, адметнасці хочацца разважаць зноў і зноў, хочацца рабіць свае прапановы, каб выданне стала больш паспяховым і карысным. Але не трэба думаць, што калі мы паставім на прайгравальнік гэтыя “Вольныя танцы”, дык пачуем нешта нуднае альбо рафінаванае. Не, ёсць тут і хіты, і заліхвацкія танцавальныя рытмы, і сатыра, і гумар...

А распачынае праграму новага дыска група “ЦяніТолкай”. Іх песня — запрашэнне да знаёмства з усім дыскам. Працягвае яго хіт гурта “Long Play” “Адлятаютаю”, што ўжо некалькі месяцаў займае трэцяе месца ў хіт-парадзе “Комсомольской правды”. Заўважым, што гэта адзіны беларускамоўны твор на ўвесь хіт-парад!

Танцавальна-хітавую хвалю падхоплівае і гурт “NRM”, што прапанаваў рэмікс свайго хіта “Катлет-матлет”.

Пасля ўдалых аналагічных прац “Палаца” гэты від прасоўвання свайго музычнага прадукта робіцца папулярным і сярод іншых выканаўцаў: музыка для дыскатэк таксама патрэбна беларускаму музычнаму рынку і яна карыстаецца папулярнасцю.

Гурт “Exist” справядліва крытыкаваўся за спрошчанасць твораў. Таму новыя песні гурта мы слухаем з асаблівым хваляваннем: ці пераадолелі музыкі свае хібы? Так, у песні “Адкуль” ужо ёсць прыгожая меладычная лінія, якая развіваецца па законах кампазіцыі.

Беластоцкія “The Dzviery” прапануюць сучасны фальклор па-беларуску з польска-беластоцкім акцэнтам і расійскімі словамі: песню “ЧайнічОК”.

Музыкі з “Крамы” не сталі арыгінальнічаць. Проста якасна перазапісалі свой хіт “Дай мне шанц” і выправілі недарэчнасць, што напаткала гэтую песню на мінулых “Вольных танцах”.

Салістка гурта “Postscriptum” Ю. Сеўрук на зборцы дэбютуе з уласнай песняй у фолк-рокавай стылістыцы “Кароль залатой травы”. Атрымалася цудоўная стылізацыя пад фальклор, якая прэтэндуе сама стаць сучасным беларускім фальклорам. Брава, Юля!

Дыск “Вольныя танцы: альтэрнатыва__ву” стаў дэбютным і для гуртоў “Цмокі” і “Імпэт”. Песні гэтых каманд спалучаюць маладую энергію, выканаўчае майстэрства і сучаснае гітарнае гучанне. Шкада толькі, што гурт “Імпэт” пакінула адна з вакалістак В. Варыкіш. Разам з Данай Жвалік яны стваралі такі незвычайны вакальны эфект...

“Kriwi” асвяжаюць душу чыстымі гукамі акустычных інструментаў і аўтэнтычнай мелодыяй песні “Ганначка”. Твору пасуюць і ўсходнія элементы ў музыцы, што ўносіць саліст “Kriwi” М. Талібані, курд па нацыянальнасці.

Пасля скрыпучага, але напружана-экспрэсіўнага гранжа “Happy Face”, першыя гукі рэгі-кампазіцыі “Нейра Дзюбеля” “Забі амерыканца” здаюцца проста райскімі.

Для берасцейскага гурта “Сад”, якога “Музыкальная газета” называе тыповым прадстаўніком расейскага рока ў Беларусі, дэбют на “Вольных танцах” мае вялікае значэнне. Упершыню музыкі паспрабавалі запісаць нешта па-беларуску. Канешне, “Народную песню”, што яны прапанавалі на дыск, беларускай назваць можна толькі ўмоўна. Але і яна можа стаць першым крокам для берасцейцаў у стыхію роднай мовы. Не ўсё ж жыццё пераняваць на манер “старэйшага брата!”




Магілёўскія музыкі з “Акругі вольнага мастацтва” і мінскі “Палац” — знакамітыя прадстаўнікі беларускага фолк-мадэрна. Іх творы з дыска — “Камень” і “Дзеўка-сямілетка” — узоры таго, куды рухаецца фолк-мадэрн, які мае ў Беларусі такія магутныя карані. А тое, што гэта так, сведчыць творчасць маладога гурта “Зелень дарог” з Віцебска і іх песня “Крылле”. Маладыя музыкі не цураюцца складанай музычнай мовы і ўводзяць у свае песні элементы джаза і камернай музыкі. Не забываюць віцябчане і пра аснову песеннай творчасці — мелодыю.

Заходняя Беларусь прадстаўлена песняй “Ёкагама” ў выкананні гарадзенскага гурта “Айша”. Упэўнены, слухачоў зачаруе іх прафесіянальна выкананы софт-рок, сучасныя аранжыроўкі і глісандзіруючы голас салісткі.

Слава Корань і яго легендарны “Уліс” прадстаўлены песняй “Першы снег” з кампакт-дыска “Падарожжа”, а гурт “UR'IA” — апрацоўкай народнай песні “Зелены дубочак” з альбома “Веснавуха”, але ў новай аранжыроўцы Крыстофера Іхіхо.

Завяршаюць праграму дыска два стопрацэнтныя хіты: “Мая краіна — Беларусь!” (памятаеце яго выкананне на Маладзечанскім фэсце ў гэтым годзе?) гурта “Без білета” і сацыяльная сатыра вакальна-інструментальнага атрада (ВІА) “Zet”: “Нядобра, вось калі пачнецца паляванне, а мэтай палявання будзеш ты!” — песня “Нармальна”.

Упершыню на дыску “Вольныя танцы: альтэрнатыва__ву” прадстаўлены творы, запісаныя сёлета. Значыць творчасць большасці калектываў, зафіксаваная на дыску, адпавядае сённяшнім музычным рэаліям. Тут бачыцца немалая каштоўнасць такіх выданняў: дыск актывізуе жаданне пайсці на канцэрты любімых гуртоў, набыць сольнік таго ці іншага калектыву. А можа, гэта і ёсць пачатак беларускага шоу-бізнесу?

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

Ілья ШАХРАЙ

# Міфчык

Гумарыст Косця Берцаў стаміўся і падаўся ў сатырыкі-некрафілы, памятаючы крылата-барадавы выраз Карла Маркса: “Смеючыся развітваецца чалавецтва з мінулым”.

Якраз гэтае мінулае і надышло, і Косця Берцаў паціхеньку паторгаў за вусы незабыўнага Сталіна. Тыя аказаліся штучныя — пшанічныя. Ён так і назваў свой фельетон.

Потым Косця памацаў унізе — выявілася што правадыр не ў анучы ногі загортваў, а ў газету “Нью-Йорк Таймс”. І газету тую штотыднёва дастаўляў праз Паўночны полюс Чкалаў. Ён і зараз жыве, а загінуў ягоны двайнік.

Тое, што Сталін працаваў, як вартаўнік, у трэцюю змену — святая праўда. А тое, што шчыраваў ён за знакамітым акном, якое ўсю ноч свяцілася, — святая хлусня. Ён у Маўзалеі знаходзіўся, і для натхнення выбіваў сваю славутую люльку аб ленінскую лысіну. І пра гэты ззяючы сімвал ленінізму Косця Берцаў раскапаў некраполь-на-сатырычнай рыдлёўкай.

Ленін калісьці даў цягу за мяжу, каб на сваёй ранняй плешыне кучары высадзіць. У яго тады раманд-арманд буяў. Толькі кожны раз пасля дарагой касметычнай аперацыі Надзея Крупская зноў усё выдзірала. А ганялася яна за Леніным і ленінкай з Швейцарыі ў Парыж, з Парыжа ў Лондан, з Лондана ў Польшчу — загрыміраваная пад Арманд. Зразумела, сапраўдная Арманд выглядала, як Крупская. А то простыя бальшавікі такога сексу правадыру не даравалі б, і не відаць тады яму маўзалея.

Увогуле, нябожчыкі на Косцю не крыўдавалі: ён жа варочаў іх пад лозунгам заснавальніка марксізма.

Але ж пацягнула сатырыка ў глыбіню гісторыі, дакапаўся да Івана Жахлівага. За нешта пакратаў — бац! — звёў адну з жонак, і тая стала прыходзіць да Косці кожную ноч ува сне.

А цар Маркса не чытаў, а з сатырыкаў аднаго Курбскага цярпеў. І накіраваў Іван Жахлівы да Косці свайго “нкусніка” Малюту Скуратава. Той парушыў Косцеў салодкі сон, і Косця абмачыўся. Адыходзячы, Малюта Скуратаў папярэдзіў: маўляў, будзеш да царскіх жонак чапляцца, прыйду яшчэ раз, і ты ўжо зробіш па-вялікаму...

Косця Берцаў вярнуўся да гумарыстаў — “Хрыстафоры калумбікі” прынялі яго.

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Жартаўлівыя куплеты “Кураня смажанае” сталі гімнам анархіі. Сентыментальная “Шумеў чарот” — гімнам п'янству. “Патрыятычная песня” Глінкі, нейкі час гімн Расіі, так і не дачакалася слоў. Затое адзін паэт тройчы пісаў тэксты да мелодыі, якая цяпер з'яўляецца афіцыйным гімнам Расіі. Новыя словы ўсё адно мала хто ведае, і людзі, пачуўшы знаёмыя такты, паўтараюць абрыдлае “Союз нерушімый республік свободных”... Песні і гімны, ці ім жыць, ці сканаць ананімна?

●

— Паўлітра гэта сорак градусаў ці пяцьсот грамаў? — Ні тое, ні другое, унучак: і там і тут ці недабор, ці недакрут.

●

— Усё мяняецца паступова. І першыя тэлефонныя размовы пачыналіся з воклічу: “Нічога не чуваць!” — Недалёка ж мы пайшлі, маці!

●

“Лямпачка Ільіча” — як тут Сталін не далучыў свайго імя? Сонечна нас асвятлялі б “лямпачкі Леніна—Сталіна”. Не мог жа крамлёўскі майстра прадбачыць акцый “Чубайса”.

*Наступны нумар штотыднёвіка "ЛіМ" выйдзе 17 жніўня 2001 г.*

ПАРОДЫІ

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

## “Адукаваны” вугор

*Вугор з навукаю не вельмі*
*Каб сябраваў.*
*Мяркуйце самі:*
*Ён на прафесарскай*
*патэльні*
*Здае за невукаў экзамен.*

*Яго смакуюць,*
*ловяць зноўку.*
*Вугор — і хабар, і валюта.*
*З такой*
*малюсенькай галоўкай,*
*А колькі скончыў*
*інстытутаў!*

## Азы цвярозасці

*Душа ад смагі не смыліць.*
*Ён і “пад мухай”*
*не прыкмечаны,*
*Таму што ведаў,*
*Колькі піць*
*Уранку.*
*Апаўдні*
*І вечарам.*

*А вось сусед — не знаў азы:*
*Не ўмеў*
*Дзяліць*
*На тры*
*Разы.*

## Слушная парада

ЖАРТ — КРЫХУ СУМНЫ

*Мне жонка*
*ўсякі раз бубніць:*
*“Кідай*
*у рыфмы гульбы.*
*Паэтам можаш ты*
*не быць —*
*На гэта сёння*
*не пражыць.*
*Глядзі на дачы*
*бульбу”.*

Мікола ШАБОВІЧ

## Дачнікі

Ад пятніцы
да панядзелка
Растуць агуркі і бульба —
Як бочачка, будзе дзеўка
І зяць,
як Пятрусь Лумумба.

Не маючы з неба манны,
Зямлю разграбуць рукамі
Івана Мележа Ганны
З В. Быкава Петрукамі...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

*Ніколі ён не лайдачыў,*
*Не з племені тумба-юмба,*
*Купіў у Баярах дачу*
*Аднойчы Патрыс Лумумба.*

*Гуркі пасадзіў і бульбу,*
*Пасля памідораў градку.*
*З любоўю глядзеў Лумумба*
*На нашу зямельку-матку.*

*Ну, думаў, участак танны,*
*Дзе туфлем, а дзе рукамі,*
*Калі б не Мележа Ганны*
*З В. Быкава Петрукамі.*

*За ноч разграблі зямельку,*
*Скапалі дашчэнту бульбу.*
*Лумумбу цяпер, бы ў пельку,*
*Без бульбы памрэ Лумумба.*

*Я толькі пачуў пра гэта —*
*Паклікаў Шніпа са Шрубам.*
*Да Ганны прыйшлі да свету*
*І ставім пытанне рубам:*

*“Дзе бульба,*
*кажы, не сыкай,*
*Гуркі, памідоры з клумбы?”*
*А Ганна: “Пятрок заныкаў,*
*Не ведаў ён, што Лумумбы”.*

*Прыйшлі к Петраку,*
*ды дзе там!*
*Няма ўжо,*
*гаворыць, бульбы.*
*Дахаты пайшлі паэты.*
*Паехаў дамоў Лумумба.*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Алесь ГАЎРОН —** *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП —** *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**





**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва — | 284-8462 |
| фота-карэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |
| Тэл./факс — | 284-7965 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2506
Нумар падпісаны ў друк 2.8.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 4369

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12